Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 17 (4868) 29 красавіка 2016 г.



# Не чужая

**Гэта наша зямля. А кажуць «зона адчуджэння»… Чужой не стала нават пасля таго, як людзі пакідалі яе. Пакінуць можна месца жыхарства, памяняць адну хату на іншую. Усё адно застаецца адчуванне роднага дома, нават калі яго ўжо няма. Калі людзей замяшчаюць іншыя насельнікі, больш прывязаныя да зямлі, чым людзі. Але неабавязкова мець карэнне ў глебе, каб адчуваць боль, калі яго абрубаюць. Нагадваюць пра гэта знакі, што расстаўляюць людзі ў тых мясцінах, якія не хочуць забываць. Знакі — як адсечкі ў часавых прамежках, зарубкі, каб нагадваць, колькі часу прайшло, а колькі яшчэ гадоў-стагоддзяў патрэбна для таго, каб гэты боль мінуў цалкам і можна было вярнуцца. Пра яго гавораць і пішуць, здымаюць фільмы. І ўсё адно імкнуцца да пакінутых мясцін, хоць бы ў думках. Такім жа болем напоўнена самое цела зямлі, яе самота лунае ў прасторы. Кліча і прыцягвае, уражвае пышнасцю, нібыта хоча засведчыць: прыгожая, нягледзячы ні на што. Прыгажосць — як выклік абставінам. Як сведчанне прагі да жыцця. І яно ідзе: адной з намі айчыны гэтыя дрэвы і кветкі. У нейкім сэнсе яны нашы суграмадзяне — запаўняюць прастору, таму што святое месца пустым быць не павінна. Чакаюць…**




Фота Анатоля Клешчука.

## Пункцірам

✔ Абвясціць 26 красавіка Міжнародным днём памяці аб чарнобыльскай катастрофе прапанавала Эдзі Роўч, кіраўнік ірландскай дабрачыннай арганізацыі «Міжнародны праект «Дзеці Чарнобыля», асноўная дзейнасць якой сканцэнтраваная ў Беларусі. Эдзі Роўч выступіла ад імя нашай краіны на памятным пасяджанні Генеральнай асамблеі ААН, прысвечаным 30-годдзю аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Гэтым крокам Беларусь мела на мэце прадэманстраваць як глабальны характар наступстваў чарнобыльскай тэхнагеннай катастрофы, так і адсутнасць бар'ераў для згуртавання шматнацыянальных высілкаў па іх пераадоленні і дапамогі пацярпелым, патлумачылі ў Міністэрстве замежных спраў.

✔ Пасяджэнне арганізацыйнага камітэта Мінскага міжнароднага кінафестывалю «Лістапад» прайшло 27 красавіка пад старшынствам намесніка прэм'ер-міністра Беларусі Наталлі Качанавай. Разгледжаны вынікі правядзення фэсту ў мінулым годзе, а таксама пытанні падрыхтоўкі і правядзення кінафестывалю «Лістапад-2016». Аб'яўлены ў Беларусі Год культуры, 30-годдзе аварыі на Чарнобыльскай АЭС, 75-годдзе пачатку Вялікай Айчыннай вайны — хацелася б, каб фестывальны рэпертуар закранаў і гэтыя тэмы, адзначыла віцэ-прэм'ер.

✔ Больш як 300 навукоўцаў з усяго свету возьмуць удзел у Міжнародным навуковым кангрэсе беларускай культуры, які адбудзецца 5 — 6 мая ў Мінску. Арганізатар — Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН, Міністэрства культуры. У ліку тэм для абмеркавання — нацыянальная культура, мова і літаратура, культура рэгіёнаў Беларусі і нацыянальных супольнасцей, беларуская дыяспара, этнакультурныя працэсы. Будуць працаваць выстаўкі навуковых выданняў і выратаваных беларускімі рэстаўратарамі артэфактаў.

✔ XI Беларускі міжнародны медыяфорум «Партнёрства ў імя будучыні» пройдзе ў Мінску 11—14 мая, паведамляюць у Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Сёлетні форум праводзіцца ў кантэксце знакавай для постсавецкай прасторы юбілейнай даты — 25-годдзя СНД, асаблівай міратворчай ролі Беларусі ва ўмовах складанай геапалітычнай сітуацыі. Запланавана пленарнае пасяджэнне з тэматычнымі панэльнымі дыскусіямі, летняя школа журналістыкі з правядзеннем майстар-класаў вядучых замежных і беларускіх журналістаў, праект «Культурная спадчына Беларусі. Году культуры прысвячаецца». Чакаецца, што ў Мінск прыедуць прадстаўнікі 21 краіны свету, агульная колькасць удзельнікаў медыяфоруму — больш як 300 чалавек.

✔ Каля 230 заявак (значна больш, чым у мінулым годзе) пададзена на XII Нацыянальны конкурс друкаваных сродкаў масавай інфармацыі «Залатая Ліцера», арганізатарам якога выступае Міністэрства інфармацыі Беларусі. СМІ прапанавалі на суд журы лепшыя матэрыялы за мінулы год. Пераможцаў конкурсу ў 26 намінацыях назавуць 11 мая, у першы дзень работы юбілейнай XX Міжнароднай спецыялізаванай выстаўкі «СМІ ў Беларусі».

✔ У Расійскай дзяржаўнай дзіцячай бібліятэцы адбылася прэзентацыя Рэспублікі Беларусь, арганізаваная Нацыянальна-культурнай аўтаноміяй «Беларусы Масквы» пры актыўным удзеле Пасольства Беларусі ў Расійскай Федэрацыі. Наведвальнікам кніжніцы таксама прапанавалі фотавыстаўку і прэзентацыйныя фільмы пра нашу краіну.

# Пасхальнае пасланне мітрапаліта Мінскага і Заслаўскага ПАЎЛА, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі, архіпастырам, пастырам, дыяканам, манахам і міранам Беларускай Праваслаўнай Царквы

Узлюбленыя ва Уваскрэслым Госпадзе нашым Іісусе Хрысце Праасвяшчэнныя архіпастыры, шаноўныя прасвітары і дыяканы, богалюбівыя інакі і інакіні, браты і сёстры, усе верныя сыны і дочкі Беларускай Праваслаўнай Царквы!

Вітаю вас вечна жывымі словамі пасхальнага дабравесця, духоўна радуючыся і лікуючы разам з вамі:

ХРЫСТОС УВАСКРЭС!

Міласцю Божай мы дасягнулі светлага дня Пасхі! З таго моманту, як апосталы абвясцілі свету пра Уваскрасенне Спасіцеля нашага Госпада Іісуса Хрыста, пастаянная радасць напаўняе жыццё нашай Царквы: Хрыстос уваскрэс з мёртвых — і смерць пераможана! Усё жыццё хрысціяніна павінна быць напоўнена пасхальнай радасцю. Кожная нядзеля — гэты дзень Уваскрасення — паказвае нам вялікі подзвіг Спасіцеля і паўнату Божай любові. Прыйшоўшы ў свет у плоці, Хрыстос Спасіцель ацаліў чалавечую прыроду ад хваробы граху і, сышоўшы ў пекла, зруйнаваў кайданы смерці, даўшы нам магчымасць узыходзіць у жыццё вечнае ў Яго Нябесным Царстве.

Першае слова, якое прамовіў Уваскрэслы Хрыстос Спасіцель, звяртаючыся да жанчын-міраносіц, а затым і да апосталаў, было «Радуйцеся!». У гэты зіхатлівы дзень, які сапраўды вядзе нас «ад смерці да жыцця і ад зямлі да неба», Царква Хрыстова радуецца, вітаючы Бажэственнага Пераможцу смерці: «*І ўзрадаваліся вучні, убачыўшы Госпада*».

Радасная песня аб Уваскрасенні Хрыстовым гучыць і ў кожным з нас: мы радуемся таму, што адбылася найвялікшая падзея — Хрыстос Спасіцель Сваёю смерцю знішчыў саму смерць: «*Сіло парвалася — і мы выратаваны. Дапамога наша ў імені Госпада*». Радуемся мы і таму, што нам, якія веруюць у Яго, Ён забяспечвае жыццё вечнае. І таму, хто будзе выконваць Яго Бажэственныя запаведзі і жыць згодна з Евангеллем, Гасподзь абяцае Царства Нябеснае: «*Я — уваскрасенне і жыццё; хто веруе ў Мяне, калі і памрэ, будзе жыць*».

Будзем жа радавацца, таму што мы маем цудоўную і непахісную аснову нашай веры — Уваскрасенне Хрыстова! Ва Уваскрасенні Хрыстовым — абяцанне, што смерць на зямлі — не канец жыцця, што смерць сілаю Божаю пераадольваецца. Ва Уваскрасенні Хрыстовым — пачатак нашага асабістага ўваскрасення. Як смяротныя мы падаем, але як бессмяротныя ўваскрасаем у жыццё вечнае з Хрыстом Спасіцелем. Няхай гэтая радасць нашага агульнага ўваскрасення ўмацоўвае нас, дапамагае пераадольваць цяжкасці, з якімі нам давядзецца яшчэ сустрэцца на жыццёвым шляху.

ХРЫСТОС УВАСКРЭС!

Гэтая спасіцельная вестка — сведчанне трыумфу жыцця вечнага, перамогі над смерцю і тленнем. Мы радасна сустракаем Светлае Хрыстова Уваскрасенне, праслаўляючы Уваскрэслага Хрыста, Жыццядаўца, ускладаючы на Яго ўсё сваё спадзяванне.

Святейшы Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Кірыл у адной са сваіх пропаведзей падкрэсліў, што сёння нямала людзей «імкнецца зразумець сапраўдны сэнс быцця, знайсці шлях да Бога…». Каб Добрая вестка дасягнула і іх, «голас Царквы павінен гучаць гучна і пераканаўча, дзеля сведчання пра Таго, «*Які аддадзены быў за грахі нашы і ўваскрэс для апраўдання нашага*». Несучы сведчанне пра Хрыста Уваскрэслага і памятаючы словы Апостала: «*Калі вы ўваскрэслі з Хрыстом, то шукайце вышняга, дзе Хрыстос сядзіць праваруч Бога*», падтрымаем адзін аднаго, каб ніхто не адчуваў сябе адзінокім, прыніжаным і безнадзейным. Падзелімся з усімі бліжнімі і дальнімі радасцю аб Уваскрэслым Спасіцелі, радасцю магчымасці яднання з Ім. І тады і ў нас саміх, і ў навакольным свеце мы ўбачым змены да лепшага.

Сёння гэта надзвычай неабходна, таму што ў шэрагу краін хрысціяне перажываюць ганенні, параўнальныя з тымі, што былі ў раннія вякі хрысціянства, а часта і большыя за іх. «Руская Праваслаўная Царква з болем успрымае гэтую бяду, — кажа яе Прадстаяцель. — Калі падзеі і далей будуць развівацца ў падобным рэчышчы, то сляды прысутнасці хрысціянства могуць практычна знікнуць там, дзе яно калісьці зарадзілася і існуе ўжо два тысячагоддзі… Як браты па веры, мы павінны падтрымліваць адзін аднаго ў цяжкі момант, узвышаць свой голас як адзіная Святая Саборная і Апостальская Царква». Няхай уваскрэсне Бог у сэрцах людзей, і няхай рассеюцца нянавісць і злосць, варожасць і сваркі, усялякія раздзяленні! «*Няхай усе будуць адно: як Ты, Ойча, ува Мне, і Я ў Табе, так няхай і яны ў Нас будуць адно*».

Праасвяшчэнныя архіпастыры, узлюбленыя айцы, браты і сёстры! Будзем жа бясконца дзякаваць Богу за тыя дары, якія мы атрымалі праз прышэсце ў свет Яго Адзінароднага Сына. Няхай Пасхальны трыумф заўсёды жыве ў нашых душах і сэрцах і жывіць іх, няхай гэтай бясконцай радасцю напаўняецца і пранікаецца ўсё наша жыццё. Благадатная дапамога Божая няхай садзейнічае кожнаму з нас у далейшай працы на славу нашай Царквы, на славу нашай зямной Бацькаўшчыны, на дабро ўсім, хто мае патрэбу ў нашай увазе і клопаце.

Віншую ўсіх вас са святам Святой Пасхі Хрыстовай і малітоўна жадаю вам і вашым блізкім светлай пасхальнай радасці, усёпераможнай надзеі, моцы душэўных і цялесных сіл!

ХРЫСТОС УВАСКРЭС!

САПРАЎДЫ ЎВАСКРЭС ХРЫСТОС!

**+ ПАВЕЛ,**
**мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі,**
**Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі**

# Крашанка ці пісанка?

## Велікодныя яйкі на беларускі манер

Традыцыі беларускага народа выпрацавалі падыходы да таго, якімі павінны быць велікодныя яйкі. Паглядзець на варыянты афарбоўкі і дэкарыравання яек можна да 6 мая ў Цэнтры даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі на выстаўцы «Прыйшла Вялічка з чырвоным яечкам».



Вялічка, альбо Вялікдзень, — свята, якое задавала тон на ўвесь год да наступнага Вялікадня. Таму да падрыхтоўкі падыходзілі з асаблівай адказнасцю. Існавала шмат варыянтаў расфарбоўкі галоўнага сімвала. Яйкі традыцыйна фарбавалі «экалагічным» спосабам — у цыбулінні, фарбай з буракоў ці адварам з кары дрэў. Ужо гэтыя спосабы давалі магчымасць атрымаць розныя колеры. Аднатонна пафарбаванае яйка — крашанка. Але калі на яго пакапаць воскам са свечкі, то атрымаецца крапанка. Іншы варыянт малюнка атрымліваўся, калі зваранае яйка апрацаваць нажом, шылам ці вялікай іголкай: вось і скрабанка атрымлівалася. Больш за ўсё патрабаванняў да яйка, якому належала стаць пісанкай. Сырое, знесенае маладой куркай, апрацоўвалася метадам васкавання (карысталіся пчаліным воскам). Патрэбна была вада, жывы агонь, пэндзлі, сурвэткі, гліняныя гаршкі (усё абавязкова новае) і зелле для атрымання фарбаў. Асвечаная ў храме пісанка захоўвалася ў хаце за абразом: і ахова, і сімвал дабрабыту.

Дзеля падрыхтоўкі да Вялікадня ў Музеі беларускага народнага мастацтва, у Раўбічах, прайшла серыя майстар-класаў па стварэнні пісанак. Майстэрству вучыліся пад кіраўніцтвам дасведчаных навукоўцаў. А вось крашанкі рабіць мы пакуль не развучыліся.

# Жыватворная сіла мастацтва

## (пацверджана на Магілёўшчыне)

**Пра тое, што здарылася 30 год таму, хацелася б наогул забыць, але гэта значыць адрачыся і здрадзіць. Трэць тэрыторыі Магілёўшчыны трапіла пад радыяцыйны попел, дзясяткі вёсак спынілі існаванне, шмат ліквідатараў заўчасна пайшлі з жыцця.**

У памяць пра тыя падзеі ў Слаўгарадзе арганізавана выстаўка з фондаў абласнога мастацкага музея імя П. Масленікава. 15 карцін мастакоў з Беларусі і Расіі — Уладзіміра Гардзіенкі, Леаніда Гоманава, Віктара Ціханава, Уладзіміра Кожуха, Таццяны Гарэлавай, Уладзіміра Еўтухова — яшчэ раз нагадаюць пра Чарнобыль.

— Мастакі Гардзіенка і Кожух стваралі карціны непасрэдна ў зоне. Частка работ зроблена падчас міжнароднага пленэру «Вобраз Радзімы ў выяўленчым мастацтве», прысвечанага 20-годдзю сумнай даты, — кажа **Святлана Строгіна, намеснік дырэктара мастацкага музея імя П. Масленікава**. — Мастакі працавалі ў Краснапольскім, Слаўгарадскім, Быхаўскім і Касцюковіцкім раёнах. Яшчэ некалькі работ мы набылі ў прыватнай калекцыі.

З пяці пацярпелых раёнаў вобласці Слаўгарад абраны невыпадкова. Да мінулага года ён заставаўся адзіным, дзе наогул не было музея. Фонды яго толькі пачынаюць фарміравацца, а цікавасць насельніцтва вялікая. «Мы дапамагаем па частцы мастацкіх праектаў, — адзначае Святлана Строгіна. — Дарэчы, сёлетні пленэр "Вобраз Радзімы ў выяўленчым мастацтве" таксама будзе праводзіцца ў Слаўгарадзе, мы яго прысвячаем мастаку 14 класа Фёдару Андрэевічу Тулаву, які лепшыя гады свайго жыцця правёў у Прапойску (ранейшая назва Слаўгарада)».

Да журботнай даты клубныя ўстановы вобласці падрыхтавалі мітынгі-рэквіемы, канцэрты, літаратурна-мастацкія сустрэчы, тэматычныя гадзіны.

— Праграмы, з якімі выступяць на тэрыторыі закранутых Чарнобылем населеных пунктаў лепшыя калектывы вобласці, зроблены з ухілам на пазітыў, — кажа **дырэктар Магілёўскага абласнога метадычнага цэнтра народнай творчасці і культурна-асветніцкай работы Алег Хмялькоў**. — Мы ганарымся людзьмі, якія змагаліся з наступствамі, узгадваем населеныя пункты, якія не існуюць, але жыццё працягваецца.

Напярэдадні чарнобыльскай даты ў Краснаполлі, на цэнтральнай плошчы, адбудзецца вялікі канцэрт з удзелам самых вядомых зорак вобласці. Ён пройдзе ў рамках дабрачыннага творчага марафону «Адраджэнне», які ладзіць на Магілёўшчыне абласная філармонія.

Адзін з удзельнікаў канцэрта ў Краснаполлі, аркестр народных інструментаў імя Л. Іванова, вядомы далёка за межамі краіны. На працягу некалькіх год ён рэалізуе ўнікальны праект — «Маладыя таленты Магілёўшчыны ў суправаджэнні аркестра». Гэта калі мастацкі кіраўнік аркестра і яго галоўны дырыжор — Мікалай Алданаў — разам з аднадумцамі выязджаюць на перыферыю вобласці, у тым ліку і чарнобыльскія раёны, шукаць таленты.

«Там шмат адораных маладых людзей. І даць магчымасць раскрыцца іх таленту вельмі важна. Напрыклад, Ліза Кейзерава з Магілёва паказала запіс з нашым аркестрам Уладзіміру Співакову, і той запрасіў яе на маскоўскі фестываль. Вікторыя Грыбкова з Бялыніч так натхнілася, што пасля нас 7 конкурсаў выйграла. Насця Купрыянцава са Слаўгарада таксама пачынала з намі, а зараз вучыцца ў Інстытуце сучасных ведаў імя А. Шырокава на вакальным аддзяленні ў Пятра Ялфімава», — распавядае маэстра.




Неяк аркестр чарговым разам выступаў у Хоцімску на свяце званароў. Пасля канцэрта да Мікалая Алданава падышла жанчына сталага веку: «Я адстаяла службу, схадзіла ў хросны ход, стоячы праслухала ваш канцэрт і як на крылах лячу дадому. Дзякуй табе, сынок».

«Для мяне лепшай адзнакі ў жыцці не было і няма, — прызнаецца маэстра. — «Лячу як на крылах» — вось самая дакладная адзнака таго, што робіць з намі музыка!»

**Нэлі ЗІГУЛЯ**

# «Зорка-палын»



*Работа Уладзіміра Кожуха «Павадыр».*

**Палатно з такой назвай народнага мастака Рэспублікі Беларусь Гаўрыіла Вашчанкі стала камертонам выстаўкі да 30-годдзя аварыі на Чарнобыльскай АЭС, прадстаўленай у Гомельскай карцінннай галерэі Г. Х. Вашчанкі.**

Экспазіцыя складаецца з дзвюх частак, умоўна названых «Смутак» і «Светлая будучыня». У першай — работы Галіны Русак, Уладзіміра Гардзіенкі, Мікалая Казакевіча, Віктара Барабанцава, Віктара Ціханава і іншых мастакоў, якія быццам напамінаюць пра памерлых, перадаюць смутак па кінутых вёсках, забітых крыжамі калодзежах... З адной рэальнасці ў іншую пераносіць работа Уладзіміра Кажуха «Павадыр»: мужчына ў касцюме дэзактыватара вядзе за сабой з зоны жанчын і дзяцей у медыцынскіх масках. Твор як бы аб'ядноўвае абедзве часткі экспазіцыі.

Другая частка адлюстроўвае прымірэнне з трагічнай неабходнасцю жыцця на зямлі, забруджанай радыёнуклідамі. Вось сельскагаспадарчыя работы, вось дзеці гуляюць у футбол... Гэта ўжо сучаснасць Магілёўскай і Гомельскай абласцей.

**Алена ПАРФІЯНОВІЧ**

## Дайджэст

• Вядомы японскі пісьменнік Харукі Муракамі стварыў дабрачынную арганізацыю па зборы сродкаў для пацярпелых ад землятрусаў, што адбыліся на паўднёвым захадзе Японіі з 14 па 17 красавіка. Так, сярод жыхароў востравa Кюсю загінулі 48 чалавек, 1100 параненыя, 11 дасюль не знойдзеныя. «Я вельмі занепакоены лёсамі тых, хто жыве на востраве, і поўны жадання зрабіць хоць нешта, што магло б дапамагчы пацярпелым», — казаў пісьменнік яшчэ раней.

• Жыццё Зэльды Фіцджэральд стане асновай новай галівудскай кінастужкі. Сцэнарыстам фільма «Прыўкрасныя і выраканыя» («*The Beautiful and the Damned*») па аднайменным рамане Фрэнсіса Скота Фіцджэральда стала Ханна Вег. Па папярэдняй інфармацыі, рэжысурай зоймецца Нік Касавецiс, а ў ролі Зэльды выступіць Скарлет Ёхансан. Гісторыя Скота і Зэльды пачалася ў 1918 годзе, і з таго часу вобраз каханай з'яўляўся ў кожным новым рамане Фіцджэральда. «Прыўкрасныя і выраканыя» сярод іх — самы набліжаны да жыцця пары раман.

• Падчас шпацыру з сабакам жыхарцы падмаскоўных Хімак пашчасціла зрабіць ўнікальную знаходку — адно з першых выданняў твораў Аляксандра Пушкіна ў Расіі. Дакладней, дзіўны прадмет, загорнуты ў поліэтыленавы пакет, знайшоў сабака... На вокладцы захаваўся асабісты подпіс Пушкіна, на асобных старонках ёсць пазнакі, зробленыя яго рукой. Эксперты ацанілі кнігу амаль у мільён рублёў, але жанчына гатовая перадаць кнігу ў музей адразу пасля рэстаўрацыі.

• Дзіцячы пісьменнік Альберт Іваноў нечакана для сябе і чытачоў аказаўся аўтарам казкі, якая, па меркаванні экспертаў, прапагандуе наркотыкі. Так, ва ўніверсаме горада Навазыбкаў Бранскай вобласці на прылавак выставілі кнігу казак Іванова пра прыгоды Хамы і Сусліка, добра вядомых па мультфільмах. Мясцовыя пракуроры звярнулі ўвагу на казку «Як суслік адурманіўся»: бедная жывёліна патрапіла ў зарасці канаплі, і ёй стала кепска. На думку пракурораў, аўтар не толькі прапагандуе наркотыкі, але і падказвае, як іх ужываць. У выніку наклад кнігі ліквідаваны, а гандлёвага супрацоўніка аштрафавалі на 40 тысяч рублёў.

• Іспанскі псіхіятр Тыбурсіё Ангоста паставіў дыягназ Дону Кіхоту. На яго думку, герой пакутаваў ад рэактыўнага псіхозу. Прычына захворвання ў тым, што ідальга шукаў схаваны сэнс у літаратурных творах, дзе яго, насамрэч, не было. Псіхіятр таксама ўпэўнены, што мог бы дапамагчы герою: патрэбныя нейралептыкі ў невялікіх дозах і тэрапія, але перадусім пацыент мусіў сам прызнаць сваё захворванне.

• «Сапраўдным» Шэкспірам у розныя часы называлі самых розных гістарычных асоб і пісьменнікаў. Адно з апошніх меркаванняў выказаў сучасны даследчык Джон Хадсан у кнізе «Смуглявая лэдзі Шэкспіра». Ён прыводзіць доказы на карысць таго, што пад імем Шэкспіра выступала паэтэса Амелія Басана (*Emilia Bassano*): яна атрымала цудоўную адукацыю і магла мець уяўленне пра розныя навукі і галіны мастацтва, што адлюстравана ў п'есах Шэкспіра. Даследчык знайшоў шмат падобных момантаў у творчасці Шэкспіра і Басана, не толькі з пункту гледжання ідэй, але і ў паэтыкастылістычнай і лексічнай «плоскасцях». На сёння існуе каля двух мільёнаў работ, прысвечаных Шэкспіру. Творчасць Амеліі Басана зацікавіла каля двухсот літаратуразнаўцаў.

# Зямля пад белымі крыламі

**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»**

# Айцец Уладзімір

## Як святар з Чарнігава адрадзіў царкву ў Хойніках

**«Бацюшка да нас прыехаў! Бацюшка! Значыць, не пакінуў нас Бог адных з бядою! — Маланка, якую на вуліцы інакш і не звалі, як «багамолка», спяшалася апавясціць таварышак. — Царкву будаваць прыехаў! І хавацца-туляцца па хатах болей не будзем! Каб не той пракляты Чарнобыль, дык, можа, і не дажылі б мы да такога дня. Хай Госпад мяне прабачыць за такое багахульства».**



Маланка руплівa пачала хрысціцца, а потым прадоўжыла: «Дарагія мае сёстры, значыць, недарэмна столькі гадоў святы абраз хавалі», — на вачах ужо даволі пажылой жанчыны заблішчэлі слёзы радасці. «Цяпер і ў нашай іконачкі зноў дом будзе», — загаманілі, ажылі яе сяброўкі, такія ж, як і Маланка, жанчыны ў гадах.

Навіна і сапраўды незвычайная: ажно з 1922 года ў Хойніках не было царквы. Спачатку храм быў закрыты ўладамі, а ў 1928-м разбураны зусім, нават фундамента не засталося. Тады ўсе царкоўныя каштоўнасці канфіскавалі ў фонд «галадаючых і бедных», іконы разрабавалі, а некаторыя проста выкінулі на сметнік. Царкоўны праслужнік Тарасій Дашук падабраў адзін з абразоў. Гэта была незвычайная ікона (хойніцкія вернікі добра ведалі, адкуль яна ўзялася на іх зямлі, і верылі ў яе цудадзейную сілу).

Яшчэ ў 1700 годзе хойніцкая княжна, дачка ўдзельнага князя Шуйскага, выйшла замуж за прадстаўніка найвядомейшага ў Расіі роду Трубяцкіх і паехала ў Бранскую губернію, у горад Трубчэўск. А ў Хойніках яе муж, князь Трубяцкі, у 1705-м пабудаваў сабор у гонар Пакрова Божай Маці і падараваў храму найбагацейшы іканастас. Знойдзены Тарасіем абраз быў аднаго пісьма з тымі, што ўваходзілі ў склад іканастаса, называўся «Жыватворнае Неба». Слуга божы схаваў ікону ў сябе дома, у вёсцы Губарэвічы. Потым яна пераходзіла з сям'і ў сям'ю, з вёскі ў вёску. Пасля Губарэвіч пабывала ў Веляціне, Стралічаве, зноў у Хойніках. Апошнія 15 год абраз захоўвала жыхарка Хойнікаў Аляксандра Мікалаева (у будучым манахіня Сафія).

І вось — такая ашаламляльная навіна! Пасля Чарнобыльскай трагедыі айцец Уладзімір атрымаў запрашэнне Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта і прыехаў на зямлю беларускую з суседняй — украінскай, са старадаўняга Чарнігава, спецыяльна будаваць царкву! Інфармацыя абляцела ўсе навакольныя вёскі, абмяркоўвалася не толькі сярод вернікаў мясцовай грамады, але і сярод тых, хто пазбягаў мець зносіны з Усявышнім. Відаць, Бог пачуў гарачыя малітвы тых, хто з-за адсутнасці сваёй царквы вымушаны быў ездзіць у Васілевічы і нават у Чарнігаў.

Хайнічане ўпершыню ўбачылі айца Уладзіміра — бацюшку, як яны пачалі называць яго з першых жа дзён, калі ён дапамагаў эвакуіраваць дзяцей з раёна. Снаваў сярод людскога гвалту, суцяшаў, а калі аўтобусы з хлопчыкамі і дзяўчынкамі накіраваліся з плошчы на выезд з горада, крыжаваў ім услед і штосьці шаптаў. Ніхто не чуў, пра што прасіў ён Госпада, — на плошчы стаяла суцэльнае галашэнне дзяцей і бацькоў, перакрывала і шум заведзеных матораў, і роў сірэн патрульных машын ДАІ. У тым вэрхале ніхто асабліва не звяртаў увагі на маладога хударлявага мужчыну ў сутане — не да таго!

Потым яго прыкмячалі ўсюды: на вуліцах, у афіцыйных установах і асабліва за старымі гарадскімі могілкамі, дзе было выдзелена месца пад будаўніцтва новай царквы. Тут жыхары горада і пазнаёміліся з айцом Уладзімірам бліжэй, бо ён пачаў першыя богаслужэнні. Летам яшчэ сяк-так, а зімой на чатыры стоўпчыкі нацягваў цырату і так служыў. Свечкі людзі ставілі ў снег. А побач падымалася царква. Усім мірам!

Хайнічане-добраахвотнікі, якія не пакінулі горад, ва ўсім спрыялі маладому свяшчэнніку, дапамагалі і мясцовыя прадпрыемствы. Калі храм узвялі, з Санкт-Пецярбурга і Кіева прыехалі мастакі: пецярбуржцы працавалі над роспісам унутранага ўбранства храма, кіяўляне ў старажытнарускім стылі май-стравалі іканастас. Так пісалі яшчэ ў далёкім XII стагоддзі. Калі будаўніцтва Пакроўскай царквы завяршылася, у святую абіцель вярнулася і стала яе галоўнай святыняй ікона Божай Маці «Жыватворнае Неба», гісторыя якой налічвала на той момант амаль 300 гадоў.

Радасці хойніцкіх вернікаў не было мяжы: свой храм з сямю залатымі купаламі, якія атаясамлялі сем таінстваў Святой Хрыстовай Царквы. Пасля асвячэння Мітрапалітам Мінскім і Слуцкім Філарэтам божы храм адчыніў дзверы вернікам, якім так патрэбна была надзея на дабро, на тое, што благадаць вернецца на іх родную зямлю.

У хуткім часе пры царкве стварылі жаночы манаскі скіт. Пасля пабудавалі невялікі дамавы храм у гонар роўнаапостальнага князя Уладзіміра. Рашэннем Сінода Беларускай Праваслаўнай Царквы скіт быў ператвораны ў жаночы манастыр. Тут жа адкрылі дзіцячую царкоўнапрыходскую Чарнобыльскую нядзельную школу. А манастыр стаў духоўным цэнтрам не толькі для жыхароў горада і раёна ды паломнікаў з усёй Беларусі, але і для ўсіх, хто сюды прыходзіў.

За гады паслячарнобыльскага сумеснага жыцця яны так прыкіпелі адзін да аднаго — бацюшка з Чарнігава і маленькі гарадок на поўдні Гомельшчыны, — што ўсе жыхары звярталіся да айца Уладзіміра як да хуткай дапамогі. Выпускнік Варшаўскай духоўнай семінарыі, знаўца некалькіх еўрапейскіх моў, бацюшка суцяшаў і вернікаў, і атэістаў не мудрагелістымі царкоўнымі пастулатамі, а даходлівымі, звычайнымі, на першы погляд, але поўнымі глыбіннага зместу парадамі.

І вось па Хойніках і ваколіцах разнеслася вестка, што бацюшка пакідае прыход і вяртаецца ў Чарнігаў. Навіна была не менш ашаламляльная, як і 25 гадоў назад. Зрабіўшы сваю справу, ён прызываўся туды, адкуль дабіраўся ў Хойнікі яшчэ на пароме, калі не было дабротных мастоў, перакінутых праз Прыпяць і Дняпро, якія ўжо каторы год надзейна служылі людзям з таго і другога бакоў — з Беларусі і Украіны.

Свайго шаноўнага бацюшку, які так шчыра і самааддана служыў у найцяжэйшыя гады, хайнічане праважалі, як кажуць, усім мірам і крыжавалі ўслед, як ён у далёкім 1986-м крыжаваў аўтобусы з іх дзецьмі і ўнукамі.

Хутка у Сеціве з'явіліся паведамленні пра пачатак будаўніцтва ў Чарнігаве храма Пакрова Прасвятой Багародзіцы, настаяцелем якога прызначылі протаіерэя Уладзіміра Козака.

Бацюшка ізноў будуе, ізноў дае праваслаўным надзею на мір, дабро, ратаванне… Цяпер ужо ад братазабойчай вайны.

**Раіса ДЗЕЙКУН**

# Жыццё наноў

**З пошты «ЛіМа»**

**«Радыяцыя ідзе! Да нас ідзе радыяцыя!» — з гэтымі крыкамі дзеці, быццам спужаная чародка вераб'ёў, гнаная велізарным, злым ценем, разляцеліся па сваіх дварах. І хоць ніхто нават уяўлення не меў, што гэта за «радыяцыя» такая, усе адчулі нябачную пагрозу — са смакам металу і нясцерпным галаўным болем. Прывычнае жыццё ператварылася ў бясконца трывожнае чаканне...**



Фота Анатоля Клешчука.

Спачатку чаканне магчымага выбуху яшчэ аднаго ядзернага рэактара. Шматтысячны горад тады апусцеў. Было ўказанне: не выходзіць на вуліцу, уключыць радыёпрыёмнікі, падрыхтаваць усе неабходныя дакументы і рэчы, пры гуку сірэны спусціцца ў склепы, бомбасховішчы. Асабліва горка было за людзей, якія перажылі Вялікую Айчынную вайну.

Затым чаканне сустрэчы з роднымі. Звыклае жыццё жыхароў горада Хойнікі перавярнулася за адзін дзень. Небяспечным стала ўсё: ежа, вада, паветра, зямля... Пачалася паніка. Натоўпы штурмавалі вакзалы, спяшаючыся вывезці з забруджанага горада блізкіх і перш за ўсё дзяцей. Перапоўненыя цягнікі адыходзілі ў розныя напрамкі неабсяжнага Савецкага Саюза. Людзі былі вымушаны пачынаць жыццё нанова, удалечыні ад роднай хаты. Толькі пакінутыя дамы з мэбляй, цацкамі і начыннем, быццам куфры з пасагам, надавалі надзею і веру на вяртанне…

Але вяртання не адбылося. Усё часцей гучала слова «чужына», а ва ўжыванні жыхароў «чыстых зон» з'явілася слова «перасяленцы». Вымушаныя перасяленцы сталі людзьмі без каранёў — засталіся без малой радзімы. Ім давялося зноў заваёўваць аўтарытэт. І зноў чакаць: ці стануць калі-небудзь сваімі сярод чужых? Найскладаней даводзілася дзецям: новыя школы, новыя настаўнікі. Аднак цярпенне і надзея паступова ператварыліся ў сапраўднае і шчырае сяброўства.

…Але гэта было потым. А пакуль што чатырохгадовая дзяўчынка сядзела пад сталом, замкнуўшы ўсе засоўкі ў доме, і ўпершыню свядома малілася. Маліла Бога аб тым, каб бацькі вярнуліся дадому, каб не забрала іх невядомая, няпрошаная, страшная госця — радыяцыя.

**Наталля АНТОНЕНКА**

*У 1991 годзе пераехала з Хойнікаў у г. Смаргонь.*

*Унікальны праект*

# Рэчы, што памятаюць

## У Музеі старажытнабеларускай культуры — экспазіцыя сведчанняў дачарнобыльскага жыцця

**Тут прадстаўленыя рэчы, якія ўдалося выратаваць з забруджанай радыяцыяй зоны пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Маляваныя дываны, посцілкі, калыскі, стол і нават шафа. Вялікія бочкі і рыбалоўныя прылады. Ручнікі, посуд, іконы і фотаздымкі тых людзей, якім некалі належалі гэтыя ўнікальныя прадметы.**



*Фота Кастуся Дробава.*

*Укладальнікі кнігі «Захаваная памяць страчанай зямлі» Барыс Лазука і Аляксандр Галкоўскі прадстаўляюць новае выданне.*

Прадметы, што памятаюць жыццё да катастрофы, рэчы, якія самі сталі сведчаннямі і помнікамі свайму часу. Яны былі сабраныя ўдзельнікамі Дзяржаўнай гісторыка-культурнай экспедыцыі па выратаванні помнікаў гісторыі і культуры ў раёнах, якія пацярпелі ў выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС, у 1990-х гадах і сёння захоўваюцца ў асобнай экспазіцыі Музея старажытнабеларускай культуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

Падчас адкрыцця экспазіцыі намеснік дырэктара Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі, доктар мастацтвазнаўства Валерый Жук падкрэсліў:

— Цяпер мы не цэнім рэчы, часта кіруемся модай. Культура памяці рэчаў паступова знікае. Але прадметы, прадстаўленыя ў новай экспазіцыі, — вечныя. Такія ж прылады працы, посуд, посцілкі выкарыстоўвалі нашы продкі і стагоддзі таму. Яны перадаваліся з пакалення ў пакаленне. Жыцця, што было ў мясцінах, забруджаных у выніку катастрофы на ЧАЭС, ужо няма. Але памяць пра тое, чым жылі людзі, вымушаныя пакінуць родныя хаты, захаваецца.

Сёння аддзел старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этналогіі і фальклору імя К. Крапівы працягвае справу, некалі распачатую даследчыкам Віктарам Шматавым і энтузіястамі — удзельнікамі экспедыцый пад яго кіраўніцтвам. Кандыдат гістарычных навук Міхаіл Філістовіч, які сам браў удзел у паездках, прыгадаў:

— Два дзесяцігоддзі таму я ўдзельнічаў у адкрыцці першай выстаўкі выратаваных з чарнобыльскай зоны каштоўнасцей. Асноўную працу па зборы гэтых рэчаў у 1991 — 1995 гадах зрабілі энтузіясты. Былі часам і вельмі небяспечныя вандроўкі. Мы працавалі нават у 30-кіламетровай зоне, дзе была вялікая радыяцыя. Здаралася, што псаваўся аўтобус, і трэба было ісці да Нароўлі больш як дзясятак кіламетраў.

На працягу амаль 10 гадоў калекцыяй помнікаў этнаграфіі і народнага мастацтва Чарнобыльскай зоны апекавалася Святлана Бяляева. Цяпер тут працуе Аляксандр Галкоўскі. Менавіта ён правёў усю работу па арганізацыі экспазіцыі, калі з'явілася неабходнасць зрабіць яе больш сучаснай. Дарэчы, сама калекцыя паўстала і ў новым фармаце. Аляксандр Галкоўскі распавёў:

— Новая экспазіцыя — не класічная па форме. Гэта спроба прадставіць калекцыю ў выглядзе адкрытага захавання фондаў. Прадметаў вельмі многа — тысячы, як маленечкіх рэчаў, так і вельмі вялікіх, — і хацелася паказаць як мага больш. У працы над экспазіцыяй мне дапамаглі 35 валанцёраў. Нехта з іх прыходзіў толькі аднойчы, а нехта працаваў тут доўгі час. Нашы калегі, якія шчыравалі над зборам калекцыі, здолелі сабраць і захаваць гэтыя ўнікальныя рэчы, наша задача — іх берагчы, паказваць сучаснікам, распавядаць, каб памяць пра жыццё на страчаных землях жыла.



*Фрагменты экспазіцыі помнікаў этнаграфіі і народнага мастацтва Чарнобыльскай зоны.*

Важна, што з прадметамі, выратаванымі з Чарнобыльскай зоны, цяпер можна пазнаёміцца не толькі ў музеі. Яны прадстаўлены і на старонках новага альбома «Захаваная памяць страчанай зямлі», што пабачыў свет у выдавецтве «Беларусь» пры падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

— Гэтыя каштоўнасці вартыя таго, каб паказаць іх як мага большай аўдыторыі — не толькі наведвальнікам экспазіцыі, але і шырокаму колу чытачоў. Каб нашы сучаснікі, нашчадкі ведалі, каб цанілі тыя рэчы, якімі карысталіся простыя людзі. Бачылі іх прыгажосць, паўсядзённую, імглівую і ў той жа час адвечную, — падкрэсліў адзін з укладальнікаў кнігі, кандыдат мастацтвазнаўства Барыс Лазука.

На старонках альбома не проста прадстаўлены прадметы з Чарнобыльскай экспазіцыі ў натуральным выглядзе. Аўтары, фатографы паспрабавалі па-мастацку адлюстраваць іх фактуру, тэкстуру, адметнасці афармлення. Тут можна прачытаць пра выратавальныя экспедыцыі, даведацца пра тое, як быў наладжаны побыт сем'яў у хаце, клеці, на падворку, якімі промысламі і рамёствамі займаліся на тэрыторыях, дзе больш ніколі не будуць жыць людзі, як тут вялі гаспадарку і апрацоўвалі зямлю, якімі вырабамі выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ўпрыгожвалі свае дамы.

Усе тэксты ў кнізе пададзены на беларускай, рускай і англійскай мовах.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*Млын навін*

# Летапіс падзей

Пра тое, з якімі цяжкасцямі сутыкнулася наша краіна пасля Чарнобыльскай катастрофы, распавядае выстаўка «Беларусь. 30 гадоў пасля Чарнобыля», якая адкрылася ў дзяржаўнай гісторыка-культурнай установе «Гомельскі палацава-паркавы ансамбль».

У экспазіцыі — фатаграфіі, прадметы і дакументы з фондаў палацава-паркавага ансамбля, Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь. Упершыню прадстаўлены здымкі з архіва журналіста БелТА Сяргея Халадзіліна, які вось ужо 30 гадоў стварае своеасаблівы летапіс паслячарнобыльскіх падзей.

На выстаўцы адлюстравана дзейнасць прадпрыемстваў, навукова-даследчых устаноў Гомельшчыны, якія назапасілі вялікі досвед па пераадоленні наступстваў аварыі, неабходны не толькі нашай краіне, але і цікавы для сусветнай супольнасці.

* * *

У Брагінскім гістарычным музеі з карціннай галерэяй прайшла сустрэча з беларускімі навукоўцамі, мастакамі і дзеячамі культуры. Загадчык сектара захавання гісторыка-культурнай спадчыны аддзела старажытнабеларускай культуры Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі Мікалай Мельнікаў распавёў пра эвакуацыю прадметаў культуры і побыту з зоны адсялення. Падчас мерапрыемства прайшла прэзентацыя адрэстаўраванага абраза-трыпціха «Дэісус» з царквы Святога Мікалая ў г. п. Брагін і перадача іконы апякунскаму савету. Мастак-рэстаўратар Фёдар Сарока распавёў прысутным пра асноўныя прынцыпы рэстаўрацыі.

* * *

Падчас рэалізацыі праекта «Развіццё патэнцыялу сеткі сямейных клубаў у Чарнобыльскай зоне з мэтай паляпшэння сацыяльна-эканамічнай сітуацыі» 8 і 9 мая ў Брагіне пройдзе «Брагінскі кірмаш». Арганізатары імкнуцца паказаць, што можа зрабіць кожны мясцовы жыхар для паляпшэння жыцця на малой радзіме, а таксама ўмацаваць сувязі паміж насельнікамі раёна, пашырыць стасункі з прадстаўнікамі іншых рэгіёнаў Беларусі і блізкага замежжа.

Як адзначаюць арганізатары, «Брагінскі кірмаш» абяцае стаць самым вялікім за апошнія 30 гадоў. У яго праграме — дзіцячая музычная пастаноўка «Зямелька продкаў», міні-спектакль «Легенда пра каханне» паводле падання пра каханне Марыны Мнішак і Лжэдзмітрыя, выступленне яўрэйскага тэатра «Шалом» з Магілёва, рыцарскія баі, сярэдневечны вулічны тэатр «Гістрыён», прэзентацыя сямейных клубаў, танцавальна-гульнявыя праграмы, унікальныя палескія стравы, «Горад майстроў» і інш.

* * *

Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт 24 красавіка ўпершыню ўзяў удзел у Міжнароднай добраахвотніцкай грамадзянска-патрыятычнай акцыі «15 дзён да Вялікай Перамогі». У гэты дзень адначасова з 14.00 да 16.00 па маскоўскім часе студэнты ўніверсітэтаў Малдовы, Азербайджана, Кіргізіі, Беларусі і Расіі неслі ганаровую варту каля мемарыяльных аб'ектаў, прысвечаных падзеям Вялікай Айчыннай вайны.

БДУ — першая беларуская ВНУ, што далучылася сёлета да гэтай акцыі: прадстаўнікі ўніверсітэта неслі варту каля помніка студэнтам, выкладчыкам і супрацоўнікам БДУ, што загінулі падчас Вялікай Айчыннай вайны, ва ўнутраным дворыку ўніверсітэта, каля помніка экіпажу Мікалая Гастэлы ў г. п. Радашковічы.

У межах праекта адсочваецца стан мемарыяльных комплексаў. Студэнты БДУ ўжо правялі суботнікі па акультурванні шэрагу пахаванняў часоў Вялікай Айчыннай вайны і фасадаў сталічных дамоў з памятнымі таблічкамі. Акрамя таго, моладзь актыўна займаецца навуковымі даследаваннямі па вывучэнні гісторыі подзвігаў землякоў — Герояў Савецкага Саюза.

# «Чарнобылем не зарасцеш…»

## Балючая тэма беларускай літаратуры



*Работа Міхаіла Савіцкага «Забароненая зона».*

Вясной 1986 года Беларусь напаткала вялікая трагедыя — аварыя на Чарнобыльскай АЭС. Выкід радыяцыі працягваўся больш за сем месяцаў. Радыеактыўныя ападкі забрудзілі амаль трэцюю частку тэрыторыі Беларусі, а таксама шэраг раёнаў Украіны і Расіі. Па некаторых звестках, дзеля выратавання Масквы і Маскоўскай вобласці спецыяльнае фарміраванне савецкай ваеннай авіяцыі «Цыклон» з красавіка па снежань 1986 года прымушала радыеактыўныя воблакі праліваццa даждом на землі ўсходняй Беларусі. Жыццё беларусаў падзялілася: да Чарнобыля — і пасля.

### НЕ-ЎЛАДАР

Як вядома, у апошняй трэціне XX стагоддзя тэхнагенная цывілізацыя сутыкнулася з глабальнымі праблемамі, народжанымі яе папярэднім навукова-тэхнічным развіццём. Па-першае, гэта праблема выжывання ў ядзерны век. Па-другое, гэта глабальныя экалагічныя праблемы і неабходнасць радыкальных змен у стаўленні да прыроднага асяроддзя. Адказнасць за зялёны свет прыроды, за ваду, зямлю і паветра, за ўсё жывое на зямлі павінна стаць часткай чалавечай свядомасці. Літаратура бачыла ў гэтым вялікую выхаваўчую праблему і імкнулася дапамагчы — сваімі сродкамі. Пімену Панчанку належаць трапныя словы:

*Не люблю я слова*
*«пакарыцель»,*
*не люблю я слова «уладар»,*
*вось зямля зялёная — бярыце*
*для жыцця, і працы, і для мар.*

Маральны ўзровень чалавека па-ранейшаму адставаў ад яго тэхнічных дасягненняў. Літаратары, і не толькі паэт П. Панчанка, адчувалі небяспеку і надавалі гэтаму немалую ўвагу. У творах беларускай літаратуры заўсёды прысутнічаў прыродны план.

На ўзмежжы 1970 — 1980-х гадоў з'явілася, напрыклад, аповесць Алеся Жука «Паляванне на Апошняга Жураўля». Падзеі ў ёй адбываюцца ў звычайнай беларускай вёсцы, дзе жыве калгасны брыгадзір Сцяпан Дзямідчык, чалавек з развітой грамадскай свядомасцю, пачуццём годнасці асобы, што і вызначае яго актыўнасць. Апроч усяго, гэты неспакойны чалавек яшчэ і філасаф, адораны рэдкай чуйнасцю да таго, што робіцца ў Сусвеце. Прырода для яго не толькі народнае дабро, якое трэба берагчы, але і ўлонне людскога існавання, спрадвечная айкумена, жывая, нарэшце, істота, надзеленая амаль чалавечымі ўласцівасцямі і адчуваннямі. «Самае лепшае, што ён ведаў і любіў у жыцці, — гэта было поле, якое спелым коласам хілілася, гайдалася, накочвалася хвалямі насустрач чалавеку, быццам лашчылася да яго, хацела, каб ён пагладзіў яго сваёй далоняй». Чарнобыльская бяда, мабыць, таму і абрынулася, што такіх, як Сцяпан Дзямідчык, сярод нас было няшмат.

Разам з тым, «Паляванне на Апошняга Жураўля» — аповесць глыбока палітычная. Тут фактычна паказаны той стан нашага грамадства, у якім яно апынулася ў сярэдзіне і канцы 1980-х гадоў, спыніўшыся перад адчайнай неабходнасцю змен, перабудовы.

### ІМЯ ГЭТАЙ ЗОРЦЫ ПАЛЫН

Аварыя ў Чарнобылі забрала 12 тысяч вёсак з ліку насельніцтва Беларусі. І сёння працягвае забіваць генафонд нацыі. У вершы «Жалоба» Рыгор Барадулін пісаў:

*Пасля чарнобыльскае навалы*
*На Беларусь прыпала*
*210 — з 300 —*
*Хірасім.*
*Хапіла ўсім.*
*Атам*
*Зрабіў Беларусь удавою...*

На поўдні, на Палессі, утварылася аграмадная пустэльня — зона павышанай радыяцыі...

Літаратура азвалася на чарнобыльскую катастрофу ўзрушаным, глыбока прачулым словам. Як буйны раманіст-летапісец, не мог прамаўчаць Іван Шамякін. Гэтай тэме прысвечаны яго раман «Злая зорка» (1991). Назва твора — біблейская паходжання, з сёмай главы «Адкр. Іаана Багаслова», у якім малюецца карціна апакаліпсіса: «Імя гэтай зорцы палын: і трэцяя частка вод зрабілася палыном, і многія з людзей памерлі ад вод, таму што яны сталі горкімі». Аднак рэаліст Шамякін не ўспрымае чарнобыльскую катастрофу ў апакаліптычным святле. Раманны аповед падаецца без мастацкіх умоўнасцей, перабольшанняў, праўдзіва, як кажуць у такіх выпадках, «у формах самога жыцця». Тым не менш і героі, і абставіны набываюць экзістэнцыяльную характарыстыку і афарбоўку: небяспека навісла над самім чалавечым існаваннем. Як заўсёды ў І. Шамякіна, супраць зла ўзнімаецца дабро, аднак сілу абставін цяжка пераадолець. Аўтар даволі падрабязна апісвае выкліканую катастрофай сумятню, асабліва ў першыя дні аварыі.

«…А пайшлі поўныя аўтобусы, на іх месца падалі пустыя — і натоўп высыпаў на вуліцу. Не, заняць месца ў аўтобусах не спяшаліся. Першыя выйшлі старыя, разгарнулі багародзіцу і запелі малітву. Вось табе і бязбожнікі! Малодшыя стаялі за агароджай канторскага двара, як бы адмежаваліся, але стаялі моўчкі, слухалі паважліва, журботна. Не ў старых, што маліліся, а менавіта ў маладых, у жанчын асабліва, вочы набрынялі слязамі...

Садзілася сонца. Завалаквалася нейкай імжой і ад гэтага рабілася жоўтым. З ракі пацягнула вільгаццю».

Нямала было і такіх, што высяляцца адмаўляліся, не ведаючы, магчыма, маштабаў бяды, таго, што існавала пагроза новага выбуху, што быў момант, калі лічба ішла ўжо не на дні, а на гадзіны. Існавала рэальная небяспека, што смертаносная хмара накрые ўсю Еўропу.

Пісьменнік не абмяжоўваецца толькі фактalогіяй, а прапаноўвае маральную ацэнку таго, што мела месца, — ацэнку падзей, сітуацый, паводзін і ўчынкаў чалавека. Ён прыходзіць да перакanання, што чарнобыльская аварыя — вынік дзейнасці каманднa-адміністрацыйнай сістэмы, якая панавала ў СССР, яе кіраўнікоў і адэптаў. У рамане «Злая зорка» ці не ўпершыню на поўную сілу загучала крытыка ў адрас партыі і дзяржавы, іх палітыкі ў дачыненні да чалавека і народа ў цэлым. З'едлівa, але аб'ектыўна падаецца партрэт тагачаснага партыйнага кіраўніка — самадура і «касталома», які ні з кім не лічыўся, а пра сябе самаўпэўнена заяўляў, што ведае ўсё. «А ведаў ён хіба прамысловасць. Сельскую гаспадарку — на ўзроўні свайго бацькі-селяніна, эканоміку — на ўзроўні сакратара райкома, бо надоўгі час быў на гэтай пасадзе, навуку — па інстытуцкіх падручніках, літаратуру... яе ведаў не глыбей, чым сярэдні дзесяцікласнік, аднак гэта не перашкаджала яму выступаць перад пісьменнікамі і вучыць іх, недарэкаў, апалітычных людзей, гультаёў і п'яніц, як трэба пісаць, чаго патрабуе ад іх народ».

Выбух на Чарнобыльскай АЭС ніякай рэакцыі ў Лявонція Мікалаевіча (так завуць апісанага кіраўніка) не выклікае, таму што станцыя, лічыць ён, «не на нашай тэрыторыі». Годны спадкаемца незабыўнага Арцёма Захаравіча Бародкі з даўняга, сярэдзіны 50-х гадоў, рамана «Крыніцы».

Да чарнобыльскай тэмы, аналізу таго, што прывяло да катастрофы, І. Шамякін вярнуўся праз некалькі гадоў у аповесці «Зона павышанай радыяцыі» (1997), якая ўзнікла пасля наведання пісьменнікам родных мясцін, у прыватнасці, Добрушскага лясніцтва, дзе пахаваныя бацькі і сёстры пісьменніка.

### ЛІСТЫ З ВЫГНАННЯ

У розны час выходзілі зборнікі, анталогіі твораў паэзіі, прозы, публіцыстыкі, аб'яднаныя чарнобыльскімі матывамі («Зорка Палын», 1993; «Прайсці праз зону», 2001 і інш.). Асабліва эмацыянальна, спрычыніліся да гэтай тэмы паэты.

Паэт Мікола Мятліцкі — зямляк Івана Шамякіна, паляшук, родам з вёскі Бабчын Хойніцкага раёна. Чарнобыльскай трагедыі ён прысвяціў нямала глыбокіх, прачулых кніг і асобных твораў, вядомых за межамі Беларусі. Выдатныя вершы «1986», «Аер», «Дзівасіл», «Дзьмухавец», «Чмяліныя соты ў высокай траве...», «Прыпяць», «Бяссмертнік». Творы, споўненыя горыччу і журбой, вернасцю і крыўдай. Іх героі — аднавяскоўцы і землякі паэта — на сабе зведалі цану неабачлівага, абесчалавечанага прагрэсу. Але галоўнае ў гэтых вершах не тое, што страчана, а тое, што навекі засталося з ім, у чулай душы. Вершы М. Мятліцкага часта вырастаюць на ўспамінах пра маці і яе дабрыню, пра суседзяў, вясковы побыт. За радком стаіць праўда перажывання.

*Ахіні — бела-бела-крылом*
*Вечаровую вулку, бусел.*
*Я пагрукаю ў кожны дом,*
*З кожнай студні*
*Вады нап'юся...*

М. Мятліцкі — паэт надзвычай эмацыянальны, яго вершы часта нагадваюць трэнас — плач па страчаным («Матчына хата», «Я прыходжу на спатканні з тымі...», «Кут мой забыты, безабаронна...», «Выгнанне», «Пудка шапоча на ветры аер», «Стаяць бярозы ў мёртвай зоне»).

Выдатны верш — «Бібліятэка». Апусцелая, вясковая, толькі вецер «праз бітыя шыбы акон» гартае падшыўкі газет. Але ўнутраным зрокам паэт бачыць, як выйшлі з яе дзве невідочныя постаці колішніх заўзятых чытачоў Маланкавіча і Буквара:

*Ані слядка на расе.*
*Удаль павядзе іх вечар.*
*Старонкі прачытаны —*
*Ўсе! —*
*Трагедыі чалавечай.*

У свеце паэта гаспадарыць памяць, узнаўляючы свае карціны і вобразы.

### ЗВЫШЛІТАРАТУРА

Пасля выпрабаванняў, што абрынуліся на краіну, прыйшло ўсведамленне крызіснага стану свету. Людзі і жыццё не маглі заставацца ранейшымі. Як і літаратура. Адным з першых гэта адчуў Алесь Адамовіч, прапанаваўшы канцэпцыю «звышлітаратуры». Каб ускалыхнуць чалавека, узварушыць яго розум і сэрца, разважаў ён, патрэбна не проста традыцыйная літаратура з выпрабаванай паэтыкай, а звышлітаратура. Многія з ім спрачаліся. Тэрмін «звышлітаратура» быў і сапраўды не самы ўдалы. Звышлітаратура пасля Ф. Дастаеўскага?.. Але праблему А. Адамовіч намацаў з уласцівай яму геніяльнасцю. Першай, можа, яшчэ неўсвядомленай спробай яе рэалізацыі стала славутая кніга «Я з вогненнай вёскі…» (1975), якую А. Адамовіч падрыхтаваў разам з Я. Брылём і У. Калеснікам. Аўтары чуйна ўлавілі патрэбу літаратуры — даць выйсце народнай памяці пра вайну, пра перажытае. Яны выявілі сапраўдны мастацкі такт, калі самі як аўтары адышлі на задні план, даўшы магчымасць гаварыць сваім героям.

У такім жа прыкладна ключы разважаў савецкі пісьменнік К. Сіманаў, які сцвярджаў, што праўду пра вайну ведае толькі народ: «Ніхто не мае права сказаць: "Я ведаю вайну". Ніхто вайну не ведае. Магчыма, ведае нейкую часцінку. Адзін больш, другі менш. Вайну ў цэлым ведае народ, і народ трэба распытваць пра яе».

Гаворка ішла пра ўзмацненне дакументальнага пачатку, а разам з ім — гуманістычнага патэнцыялу літаратуры.

Па дарозе, вызначанай кнігай «Я з вогненнай вёскі…», пайшла Святлана Алексіевіч. Вынікі Чарнобыльскай катастрофы адэкватныя вынікам вайны, і такімі яны паўстаюць на старонках яе кнігі «Чарнобыльская малітва. Хроніка прышласці» (1987). Гэтая яе кніга, як і іншыя, нарatыўнага характару. Несумненна, усе яны застануцца дакументамі эпохі, створанымі на літаратурнай аснове, на разуменні літаратуры як чалавеказнаўства.

### З ВЕРАЙ У ПРАРОЦТВА

Сёння некаторыя лічаць, што зорны час літаратуры мінуўся, што «літаратурацэнтрызм» застаўся ў мінулым. Як бы там ні было, пісьменнікі працуюць, намагаюцца зразумець свой час, стан грамадства ў катэгорыях анталагічных, быційных, філасофска-метафізічных. У літаратуры ставяцца і абмяркоўваюцца пытанні аб якасці чалавечай актыўнасці, адказнасці і магчымасцях чалавека, жыццёвай пазіцыі.

«Адна з галоўных парадыгм ідэйна-мастацкага развіцця беларускай літаратуры новага і найноўшага часу, — адзначае сучасны тэарэтык літаратуры Я. Гарадніцкі, — разгортваецца ў межах суаднясення такіх глабальных катэгорый, як прырода і культура. Гэтыя базавыя паняцці аднолькава актуальныя пры вызначэнні асноўных эстэтычных прыярытэтаў беларускага слоўнага мастацтва». З гэтым можна пагадзіцца. Важна, аднак, памятаць пра самога чалавека — носьбіта культуры і гістарычнага досведу, пра сутворчасць чалавека і прыроды, пра іх гарманічнае ўзаемадачыненне і ўзаемадзеянне.

Кажуць, што прадчуванне, прароцтва, візіянерства — прэрагатыва літаратуры, паэзіі. Уладзімір Дубоўка ў 1920-я гады прарочыў:

*О, Беларусь, мая шыпшына,*
*Зялёны ліст, чырвоны цвет.*
*У ветры дзікім не загінеш,*
*Чарнобылем не зарасцеш.*

Паэт верыў, і мы павінны верыць. І ўсё зрабіць дзеля будучыні. Дзеля таго, каб яна ў нас была.

**Уладзімір ГНІЛАМЕДАЎ,**
**акадэмік НАН Беларусі,**
**Мікола МІКУЛІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук**

# Патэнцыял партнёрства

**«Чарнобыль у літаратуры. Паэзія як сучасны культурны феномен» — падчас «круглага стала», прысвечанага гэтай тэме, у Доме літаратара ў творчым палілогу сустрэліся навукоўцы і прадстаўнікі розных пісьменніцкіх пакаленняў Беларусі, Расіі і Украіны. «Круглы стол» (яго мадэратарамі сталі расійскі паэт Андрэй Каровін і дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч) адбыўся ў межах канферэнцыі «Чарнобыль: пераадоленне. Унёсак навуковай і творчай інтэлігенцыі Беларусі, Расіі, Украіны», арганізатарамі якой выступілі Міністэрства інфармацыі і Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь, Нацыянальная акадэмія навук, Саюз пісьменнікаў Беларусі.**




*Фота Сяргея Нікановіча.*

*Падчас «круглага стала».*

Безумоўна, тэма Чарнобыля, а найперш лёс і будучыня чалавецтва, павінна востра хваляваць пісьменніка, бо хто ж, як не ён, праўдзіва раскрые ў творы маштаб трагедыі, паспрыяе, каб чытач усвядоміў народны боль. Такую думку выказаў на сустрэчы старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец. Дарэчы, з айчынных творцаў шмат увагі чарнобыльскай тэме надаюць Мікола Мятліцкі, Міхась Башлакоў, Анатоль Зэкаў, Васіль Ткачоў, Уладзімір Гаўрыловіч, Леанід Левановіч.

Літаратуразнаўца, доктар філалагічных навук, прафесар Іван Саверчанка зазначыў: разуменне чарнобыльскай тэмы ў сучасным грамадстве трэба ўдасканальваць, і паспрыяе гэтаму менавіта мастацкая літаратура, асэнсоўваючы не толькі трагедыю, але і дэфармаваныя гэтай трагедыяй людскія лёсы. Сярод творчых набыткаў айчыннага мастацкага слова — калектыўны паэтычны зборнік «Зорка Палын» (1993), які ўключае творы звыш 60 аўтараў, а яшчэ — анталогія прозы, паэзіі і публіцыстыкі «Прайсці праз зону» (1996). Гэтыя кнігі пабачылі свет у айчынным выдавецтве «Мастацкая літаратура».

— У Чарнобыльскай катастрофе, як, зрэшты, і ва ўсялякай трагедыі, важна знайсці крыніцу зла, першапрычыну канфлікту, — падкрэсліў сакратар СПБ Георгій Марчук. — Але пры гэтым неабходна яшчэ і захаваць чалавечы патэнцыял братэрства, такім чынам перасцерагаючы наступныя пакаленні ад варожасці ды агрэсіі.

Алесь Карлюкевіч засяродзіў увагу на тым, што літаратурам братніх краін, у прыватнасці Украіны і Расіі, адводзіцца шмат старонак у беларускіх літаратурна-мастацкіх часопісах «Полымя», «Нёман», «Маладосць», а таксама ў часопісе Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі «Белая Вежа». Акрамя таго, штогод выходзіць беларускі нумар расійскага часопіса «Наш современник», на старонках якога ўжо друкаваліся творы больш як 100 айчынных аўтараў. Гэтае выданне падтрымлівае партнёрскія стасункі з часопісам «Нёман». Увогуле, беларуская літаратурная часопісная публіцыстыка — сапраўдная пляцоўка для міжнародных кантактаў, якія мацуюць пісьменнікі Міхайла Слабашпіцкі і Галіна Тарасюк (Украіна), Аляксандр Казінцаў, Юрый Казлоў і Уладзімір Бяразеў (Расія) ды многія іншыя творцы.

Твораў, прысвечаных Чарнобылю, багата і ва ўкраінскай літаратуры. З Украіны на сустрэчу прыехалі прадстаўнікі творчай моладзі: паэтэса, сакратар Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны, кандыдат філалагічных навук Леся Мудрак, паэты Ігар Астапенка, Сяргей Савін і Вано Кругер. Разам з іншымі творцамі, сярод якіх — першы сакратар СПБ Генадзь Пашкоў, Юлія Алейчанка і Маргарыта Латышкевіч (Беларусь), Інга Кузняцова і Дзмітрый Танканогаў (Расія), яны прадставілі свае вершы не толькі падчас «круглага стала», але і на міжнародным паэтычным вечары ў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, сярод гасцей якога быў і доктар мастацтвазнаўства, прафесар, былы міністр культуры Расійскай Федэрацыі Міхаіл Швыдкой.

Такі інтэрнацыянальны творчы палілог мусіць прынесці плён. Адзін са шляхоў развіцця міжлітаратурных стасункаў і супрацоўніцтва — конкурс між маладых літаратараў, прысвечаны Чарнобыльскай трагедыі. А ў выніку гэтага творчага спаборніцтва мяркуецца выданне зборніка твораў-пераможцаў.

**Яна ЯВІЧ**

# Асцярожна. Рассакрэчана

**Як адбывалася адсяленне з 30-кіламетровай зоны Чарнобыльскай АЭС, будавалася жыллё для людзей, што пакінулі родныя хаты? Як забяспечвалі іх незабруджанымі прадуктамі, медыцынскай дапамогай? Кожны год гісторыя адкрывае новыя факты. Адразу два мерапрыемствы прайшлі ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі: выстаўка «Чарнобыль. Выпрабаванне на трываласць: да 30-й гадавіны аварыі на Чарнобыльскай АЭС» і прэзентацыя фотаальбома Дзяніса Раманюка «Чарнобыль».**




*Аўтар ідэі і мастацкага аблічча навукова-мастацкага альбома «Чарнобыль» і яго выдавец Дзяніс Раманюк.*

## ПАПЕРЫ, ЯКІЯ ГАВОРАЦЬ

Дакументы прадстаўлены з трох крыніц — Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, Беларускага дзяржаўнага архіва кінафотафонадакументаў і самой бібліятэкі. Такі падыход дазваляе ўбачыць шматгранную карціну, супаставіць гісторыю з сучаснымі заходамі па стварэнні спрыяльных экалагічных умоў у краіне. Асаблівая каштоўнасць на экспазіцыі — матэрыялы Расійскага дзяржаўнага архіва найноўшай гісторыі, якія паказваюцца ўпершыню.

Можна ўбачыць мемарандумы аб супрацоўніцтве, напрыклад, СССР з Японіяй, Закон БССР аб сацыяльнай абароне пацярпелых грамадзян, дзе нагадваецца пра тое, што Беларусь аб'яўлена зонай нацыянальнага экалагічнага бедства. Цікавасць уяўляе перапіска Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. Гарбачова і Прэзідэнта ЗША Р. Рэйгана, зварот апошняга з прапановай аказання дапамогі ў выглядзе групы навукоўцаў і кампетэнтнага медперсаналу.

Сустракаюцца пастановы і распараджэнні ад Савета Міністраў БССР, Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, выканкамаў абласных Саветаў народных дэпутатаў. Гаворка ідзе пра будаўніцтва дамоў, вывучэнне радыяцыйнага становішча, закупку дазіметраў, якасць прадуктаў харчавання і зямель. «Друк Штаба грамадзянскай абароны БССР. Рассакрэчана. Для службовага карыстання» — падобныя надпісы тут не рэдкасць. На выстаўцы можна пабачыць фатаграфіі ліквідатараў, перасяленцаў, ахвяр радыяцыйнага ўздзеяння, мноства выданняў як навуковых, вытворча-практычных, навучальных, так і мастацкіх.

Першы намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Алена Далгаполава нагадала, што галоўная кніжніца краіны вельмі рана пачала збор і распаўсюд матэрыялаў пра аварыю. «Яшчэ ў пачатку 90-х мы сталі працаваць над бібліяграфічным паказальнікам "Чарнобыль", дзе адлюстраваны сацыялагічныя, псіхалагічныя, медыцынскія і эканамічныя праблемы, якія выявіліся пасля трагедыі. Праца вялася 20 гадоў. І працягваецца сёння. Выйшаў дыск, які змяшчае некалькі тысяч дакументаў», — распавяла Алена Далгаполава.

Існуе нямала арганізацый і аб'яднанняў, якія аказваюць падтрымку пацярпелым ад аварыі, — іх прадстаўнікі таксама былі на адкрыцці. Як і самі ліквідатары. Тыя, хто вёў кантроль за населенымі пунктамі, амаль кожны дзень бываў за калючым дротам і па сем гадзін праводзіў у верталёце.

## КРАСАМОЎНАЕ ПАДАРОЖЖА

Навукова-мастацкі альбом «Чарнобыль» — гэта працяг. Першая частка выйшла ў 2006-м. Праз дзесяць гадоў вырасла іншае пакаленне. І трэба было абнавіць інфармацыю, што збіралася па крупінках. З розных крыніц, у тым ліку дзяржаўных і прыватных архіваў, музейных фондаў, шляхам асабістых назіранняў аўтараў. Атрымаўся не проста фотарэпартаж, пасведчанне альбо чарнобыльская энцыклапедыя. Кніга стала сімвалічным парталам, філасофскім даведнікам, абярэгам ад будучых памылак.

Аўтар ідэі і мастацкага аблічча альбома, яго выдавец, Дзяніс Раманюк сам не раз наведваў зону, пакінутыя хаты, разглядаў раскіданыя па падлозе фатаграфіі, рэчы, аскепкі… Блукаў па вёсках, якія нагадваюць Крыжовы шлях. Ён прапануе зрабіць гэта нам. Пасродкам альбома.

У кнізе ўсё на кантрастах. Паказаны месцы і людзі, пацярпелыя ад аварыі, спачатку ў мірным, надзённым стане, а потым — разгубленыя, пасля трагедыі. Гэта ўражвае, уздзейнічае. Два гады, 259 ілюстрацый і амаль столькі ж старонак — на трох мовах.

Яшчэ ў дзяцінстве бацька Дзяніса, Міхась Раманюк, вазіў яго па жывых вёсках, захавальніцах беларускіх традыцый, тых, дзе цяпер — пустэча. Прафесар этнаграфіі збіраў звесткі пра нашы рытуалы і абрады. Ездзіў туды часта, нібы прадчуваў, што хутка ўсё знікне... На самай справе сярод стваральнікаў кнігі — тры ключавыя фігуры. Акрамя Дзяніса Раманюка, гэта Ігар Бышнёў, біёлаг, эколаг, і Анатоль Кляшчук, фотакарэспандэнт газеты «Звязда», стваральнік фотаальбомаў пра Беларусь.

У кнізе шмат тэкстаў, у іх варта ўдумацца. Пададзены ў форме дзённіка. Рэабілітацыя не толькі матэрыяльных, але і духоўных страт — усё тонка прыкмечана. Чатыры раздзелы — пра прыроду, народ, гісторыю, чалавека. Дзяніс Раманюк кажа, што за час, пакуль кніга рыхтавалася да выхаду другі раз, не стала некаторых герояў, яшчэ колькі вёсак бясследна зніклі з карты. Але з'явіліся новыя пытанні. І на іх мы павінны ведаць адказ.

**Марыя ВОЙЦІК,**
**фота аўтара**



Сяргей ДАВІДОВІЧ

# Чорная вясёлка

*Паэма*

*Дзіўная рэч: ад пасады, прафесіі*
*Можна залежаць не толькі ў жыцці.*
*І пахавальны нават працэсіі*
*Маюць ранжыр — дзе тут праўду знайсці?*

*Ёсць — мнагалюдныя — многачынушныя,*
*Тут — і вянкі, і натоўп, як сцяна.*
*Ёсць і бяздушныя — звышпаказушныя —*
*«Вольвы», «таёты» вакол — круцізна.*

*Сёння працэсія крочыць звышсціплая —*
*Кветкі — у слоіку, два-тры вянкі,*
*Жонка нябожчыка, з гора асіплая,*
*Побач — яго нестарыя бацькі.*

*Следам брыдзе «аднадумства» вясковае,*
*Хто здольны кратацца — жменька ўсяго.*
*Людзі, якія паменшыць гатовыя*
*Гора любое — і дзеляць яго.*

*Спераду ў кузаве, хвояй аздобленым,*
*Тросся нябожчык у чорнай труне...*
*Лёс Беларусі, бядой перароблены,*
*Плач і жалоба — яго не кране.*

*Гэту бяду «памяншалі» няпраўдаю,*
*А расцягнулі яе на вякі.*
*Праўду душылі хлусліваю блакадаю:*
*«Дрэвы хай гінуць — ратуйце сукі!»*

*Бог ім суддзя!..*
*Наглытаемся гора мы,*
*Многа разоў пабрыдзём за труной,*
*Будзем аплочваць і душамі хворымі,*
*І нашым будучым — страшнай цаной.*

***

*Могілкі блізка ад вёскі засмучанай —*
*Вунь ён, пагорак, і дрэваў чубок.*
*Могілкі... вёска...*
*Бядою атручаны,*
*Туга заблытаны лёсу клубок.*

*Шмат пакаленняў у смутку таўпехала*
*Гэту адлегласць — туды і назад...*
*Колькі вяскоўцаў сюды пераехала!*
*Больш чым у вёсцы жыве сёння...*
*Шмат!*

*Могілкі... вёска...*
*Адзінае цэлае,*
*Пертвараецца ў сон мітусня.*
*Вечныя колеры — чорнае, белае*
*З кожным штодня — да апошняга дня.*

***

*Знялі з машыны труну тую чорную*
*І асцярожна па свежых камах*

**Паэма Сяргея Давідовіча «Чорная вясёлка» напісана па гарачых слядах Чарнобыльскай трагедыі. Твор напоўніцу перадае атмасферу тых страшных падзей, якія нясцерпным болем адгукнуліся ў сэрцы аўтара і вярэдзяць самыя тонкія струны яго душы. Сёння паэма гучыць як пранізлівы напамін. У перыёдыцы раней не друкавалася.**

*Моўчкі паднеслі да долу прасторнага.*
*З гакам капалі — сялянскі размах.*
*Цяжка нябожчыкам зваць расквітнелае —*
*Твар маладзы, а гады — маладзей.*
*Колькі злягло ў гэта сэрца скалелае*
*Згаслых пачуццяў, імкненняў, надзей...*

*Вось старшыня сельсавета завучана*
*Слова сказаў: — Не паможаш бядзе.*
*Спраўна, адвечна спраўляюць заручыны,*
*Смерць і жыццё — і не дзецца нідзе.*

*Перад хваробай і долам — мы роўныя...*
*Шмат чаго выплеснуў рот старшыні,*
*Ды і зусім не сказаў пра галоўнае —*
*Мусіў працягваць блакаду хлусні.*

*Як і чаму ратавальнай іконаю*
*На пахаванне прыбыў старшыня?*
*Сёння ж хаваюць не шышку раённую,*
*Ды і нябожчык яму не радня.*

*Просты адказ: кіраўніцтва — за працаю!*
*З верху да нізу спусцілі загад:*
*«Выбіць з мазгоў у людзей радыяцыю!»*
*Вось і на могілках сёння дагляд.*

*Той, хто памёр, сустракаўся з рэактарам,*
*Сёння — разлік, хоць раві тут раўма.*
*Многа пазней ён бы стаў «ліквідатарам»,*
*Сёння — такога і слова няма.*

*Сёння пра гэта й шаптаць забаронена,*
*Хоць беспрасветна абклала бяда,*
*Хоць пагражае паветра, гародніна,*
*Поле жытнёвае, ў студні вада.*

*Сёння хварэць абы-чым не дазволена —*
*Ад радыяцыі смех паміраць.*
*І медыцына пісала зняволена:*
*Смерцю Чарнобыль не здольны караць!*

*Вось і ляжаў у труне «прастудзіўшыйся»,*
*А па-сапраўднаму — злёг у труну,*
*Першых, гарачых часцінак «напіўшыся»,*
*Той, хто не ўдзячнасць займеў, а ману.*

*Зноў сутыкнуліся праўда з няпраўдаю —*
*Гінуць нявінныя — страсці кіпяць...*
*Фёдар — ахвяра, бо цэзію, радыю*
*Сэрца падставіў — пражыў дваццаць пяць...*
*Загрукацеў малаток, забіваючы*
*Ў века цвікі,— як апошні салют...*
*Лёс, не заўжды справядліва караючы,*
*Зноў не таму аб'явіў свой прысуд.*

*Хутка Таццяну абклала бяздонная*
*Багна пакутніцтва, страты дрыжа.*
*Лёсу капрыз — нібы бура шалёная:*
*Жонка — учора, а сёння — ўдава.*

*— Вось і адна... — Сэрца болем азвалася.*
*Боль яшчэ больш сказаў: — Не адна...*
*Шчасце мінула — яна ж рыхтавалася*
*Доўжыць жыццё — «ў палажэнні» яна.*

***

*— Горка! — крычала застолле падпітае.*
*«Горка» — на ім пацалункаў пячаць.*
*«Горка» адвечнае і знакамітае*
*Будзе на кожным вяселлі гучаць.*

*Фёдар з Таццянай амаль не садзіліся —*
*«Горка» плыло над сталамі, гуло.*
*І маладыя ўсмак маладзіліся,*
*Вуснам не горка — салодка было.*

*Іхняе горкае ліха жыццёвае*
*Блізка было.*
*А пакуль што яны*
*Песню кахання сумесную, новую*
*Сэрцамі пелі ў абдымках вясны.*

*Дні замільгалі хвілінамі хуткімі,*
*Дні, як блізняты, шчаслівыя ўсе...*
*Раптам дыхнула трывожнымі чуткамі,*
*Быццам Чарнобыль пакуты нясе.*

*А неўзабаве павестка дасужая*
*Федзю паклікала ў ваенкамат.*
*І пакацілася доля замужняя —*
*Доля бязмужняя — у занядпад.*

*Мужа схапілі, яе не спытаўшыся,*
*Для ваенкама: сям'я — не сям'я.*
*Цяжка адной, з гаспадаркай застаўшыся,*
*Ну а цяжарнай — цяжэй удвая.*

*Фёдар праз месяц вярнуўся «скамечаны»,*
*Не, не вярнуўся — прывезлі яго.*
*Сіл не было, пажаўцелы, прыгнечаны —*
*Пертрымалі ля пекла таго.*

*Фёдар згараў на вачах, прымірыўшыся*
*З тым, што спісалі яго дактары.*
*Ён і ляжаў як «наскрозь прастудзіўшыйся» —*
*Ёсць жа загад, што спусцілі згары.*

*Час, нібы плынь небяспечна-бурлівая,*
*Лодку жыцця разаб'е — хоць чыю...*
*Доля шчаслівая і нешчаслівая —*
*Кожны сустрэне — толькі сваю...*

*— Федзечка... Федзя...*
*Да скону — ніколі мы*
*Разам не будзем, хоць сэрцам крычы... —*
*Гэтыя думкі Таццяну няволілі*
*З ранку да вечара, днём і ўначы.*

*Ад успамінаў — шчымлівага водару —*
*Сёння ў Таццяны трашчыць галава.*
*Боль свой нясе на магілу да Фёдара...*
*Сёння — пяць год, як Таццяна ўдава.*

*Могілкі... Вёска...*
*Дарога знаёмая —*
*Сувязь між імі адвечная ёсць.*
*Нехта ж зазначыў — на могілках дома я,*
*Тут, на зямлі,— чалавек толькі госць.*

*Раптам Таццяну сынок яе — Янчака,*
*Што завіхаўся за ёй па пяску,*
*Збіў з успамінаў: — Стаміўся я, мамачка!..*
*Маці ўзяла хлапчука за руку.*

*— Хутка ўжо тата?..*
*Во доля праклятая...*
*Помнік стаў татам для Янкі даўно.*
*Хіба ж у гэтым дзіця вінаватае*
*Што свайго тату не знала яно?*

*Бацька і сын праз мяжу апынуліся.*
*Сын — падыходзіў, а бацька — пайшоў...*
*Толькі паўгода... Яны размінуліся,*
*Каб не сустрэцца да скону вякоў.*

*Помнік глядзеў фотакарткаю татавай,*
*Янку здавалася — тата жыве.*
*«Хутка ўжо тата?..» —*
*Як выбух набатавы,*
*Зноў у Таццяны гуло ў галаве.*

*Татава ласка, як сонейка яснае,*
*Збегла ад Янкі, зайшло за гару.*
*Доля шчаслівая... доля няшчасная...*
*Раптам хлапчук пацягнуўся ўгару:*

*— Мама! Якая вясёлка прыгожая!*
*Погляд Таццяна ўзняла ад зямлі —*
*Хмары, нібыта навала варожая,*
*Цяжка, маўкліва, навобмацк паўзлі.*

*Ціха ляжала зямелька дакорная,*
*А над зямлёй сапраўды ў вышыні*
*Зззяла вясёлка...*
*— Сынок! Яна чорная! —*
*Вырваўся крык у Таццяны... —*
*Зірні!*

*— Мамачка! Што ты? Яна — каляровая!*
*Вунь яна зззяе! А чорная дзе?..*
*Маці хіснулася, як нездаровая,*
*Ўсё паплыло, як кругі па вадзе.*

*Янка збянтэжыўся... Ціха ўжо, нанава,*
*Мовіў нясмела:*
*— Вясёлка... пабач...*
*Боль перасіліла сэрца Таццяніна:*
*— Пажартавала я, сынку... Прабач...*

***

*Сёння пажар той бяды не патушаны,*
*Страх, невядомасць — за кожным акном.*
*Непрадказальны Чарнобыль, раз'юшаны,*
*Кружыцца над галавой груганом.*

*Кружыцца гэта драпежнасць нябачная,*
*Цэліцца ў нас кіпцюрамі, а мы —*
*Ранак сустрэнем — і, Богу удзячныя,*
*Ноч напаткаем — і свет наш — нямы.*

*Раніцу хоць сустракаем — ды золкую —*
*Доля няшчасная... Доля-нуда...*
*Неба смыліць невясёлай вясёлкаю,*
*Чорнай вясёлкай прыходзіць бяда.*

*Параспаўзалася гора — і плодзіцца,*
*Сляпа і жорстка — да горла з нажом.*
*Чым чалавек ад яго адгародзіцца?*
*Помнікам і надмагільным крыжом.*

*Лёс Беларусі няўмольна мяняецца —*
*Што нас чакае? Спытацца ў каго?*
*Шмат было бед, а жыццё не спыняецца,*
*Ды і Чарнобыль не спыніць яго.*



Работа Сяргея Давідовіча «Чарнобыльскія прывіды».



Ганна АТРОШЧАНКА

# Аперацыя

*Апавяданне*

Цягнік ляцеў наперад. Кучаравыя зялёныя бярозкі ўзнімалі настрой. Надзейка, вясёлая і шчаслівая, стаяла каля адчыненага акна вагона, любавалася пейзажам. Цёплы вятрыска расчосваў яе доўгія валасы, гарэзліва ўздымаў іх, адкрываючы высокі лоб. Звінеў птушынымі галасамі май. Усё жывое цягнулася да цяпла, квітнела і спявала.

Але нечакана гэтая прыгажосць некуды знікла. Раптам праз дрымоту пачуўся мяккі мужчынскі голас:

— Надзея Іванаўна! Вы мяне чуеце ці не? Прачынайцеся. І не трэба болей спаць. Аперацыя прайшла паспяхова. Вас зараз адвязуць у палату...

Яна паспрабавала расплюшчыць вочы, але адзін белы туман калыхаўся навокал… І толькі цёмны сілуэт нахіліўся да яе. Здагадалася, што гэта ўрач-анестэзіёлаг. Абудзіў. Паспрабавала ўсміхнуцца, нягучна прамовіла:

— Дзякуй вам, доктар…

Клапатлівыя медыцынскія сястрычкі хуценька павезлі яе па вузкім калідоры ў палату. Асцярожна пераклалі хворую на бальнічны ложак. Маша — добрая, чуллівая маладая жанчына. Яе ложак быў побач. Аказалася, што таксама родам з Гомельшчыны, яны пасябравалі. Зямлячка шэптам супакоіла:

— Пасля наркозу заўсёды туман у вачах доўга плавае, дваіцца. Ты толькі не хвалюйся. Гэта пройдзе. Галоўнае, што аперацыя прайшла паспяхова. Не накіравалі ж цябе, як некаторых, адразу ў рэанімацыю…

Паправіла прасціну, выцерла мокры лоб, прыгладзіла валасы. Нахілілася ніжэй, зноўку прашаптала на вуха:

— Праз сем дзён здымуць швы. Паедзеш дадому. Ты ж маладая яшчэ, усё жыццё наперадзе! А мяне вось заўтра ўжо выпішуць, сёння доктар паведаміў. Дома ўжо буду сіл набірацца. Ды і сям'я ўжо зачакалася… Два маленькія сыночкі ў мяне. Муж — сапраўдны гаспадар у хаце. Я за ім як за каменнай сцяной. Хоць тут мяне лёс не пакрыўдзіў.

Белы туман яшчэ ўюном круціўся перад вачыма, разлятаўся на дробныя кавалкі. На нейкі момант нават страх да сэрца падкраўся. Надзейцы спярша падалося, што яна вар'яцее… Галасы і гукі, якія даносіліся з агульнага бальнічнага калідора, плылі недзе пабач, але супакойвалі. Мяккія, пяшчотныя рукі, якія папраўлялі коўдру, гладзілі яе па галаве, вярталі да рэчаіснасці. І быццам клікалі да жыцця. Успомніла матулю. Як яна там, ці здаровая? Адна ж засталася ў гарадской кватэры. Хоць бы суседка, цётка Настуля, зазірала да яе, падтрымлівала...

Нечакана па бледнай шчацэ пабеглі слёзы. Адчула, як Маша выцерла іх, ціхутка прашаптала:

— Не трэба плакаць, Надзюлька. Супакойся, калі ласка, а то ціск нагоніш. Усё будзе добра. Не ты першая тут і, дарэчы, не апошняя. Колькі яшчэ будзе вось такіх, мечаных Чарнобылем, на гэтым ложку прыходзіць у сябе пасля аперацыі? Не злічыць…

Надзя ўзяла Машыну руку, нечакана для сябе пацалавала цёплую далонь. У знак шчырай удзячнасці. І недарэмна, мусіць, кажуць: зычлівага чалавека ў нячасці пазнаюць. Бо ласкавае слоўка — як веснавы дзень!

…Уранні Маша пазвала:

— Пайшлі ў сталоўку. Трэба арганізм падтрымаць. Без яды не будзе добрай хады! Толькі падбародак ніжэй апусці, не падымай высока — глытаць будзе балюча. Тыя, каму ўжо зрабілі аперацыю на шчытападобнай залозе, зараз так робяць…



І сапраўды: нават манную кашу, хоць яна гатавалася мяккай, глытаць было вельмі балюча. Нечакана высветліла, што і доўга размаўляць нельга: голас кудысьці знікаў. Спачатку ціхі, а потым — адно сіпенне… З самотай падумалася: «Вось і ўсё. У чарговы раз лёс балюча ляснуў мяне. Ды так, што і не чакала... Дзяўчаты з палаты казалі, што наперадзе многіх чакае інваліднасць, асабліва тых, хто перанёс складаную аперацыю. Цяпер зраблюся зусім маўклівай. І размаўляць гучна будзе нельга, нават калі ўзнікне такая неабходнасць. Дый ужо не змагу падцягнуць калектыўную песню, як раней...»

А голас у Надзейкі ад прыроды быў звонкі, прыгожы, меладычны. Мабыць, ад маці. Казалі, што ў маладосці яна таксама добра спявала. Суседкі ў вёсцы заўсёды хвалілі, прасілі праспяваць нешта чуллівае: кранала сэрца. Карацей, таксама як і матулька, ужо адспявала сваё. І невядома, што наперадзе… Ды пра гэтае ніхто не ведае. Адзін толькі Гасподзь…

Падзялілася самотнымі думкамі з урачом. А той, зірнуўшы проста ў вочы, строга адказаў:

— Заўсёды радуйцеся жыццю, а дрэнныя думкі пакіньце для сметніцы. Ад гэтага залежыць вашае самаадчуванне, тэмп выздараўлення. Трэба жыць далей, верыць у лепшае. І заўсёды змагацца з самотнымі думкамі, невясёлым настроем. Кожны дзень шукаць пазітыўныя моманты. Важна, што аперацыя прайшла ўдала. Некаторыя нават губляюць голас, бывае, не да ўсіх ён вяртаецца. А вам, Надзея Іванаўна, лічыце, вельмі пашанцавала! Хутка ліквідуем гэтыя ніткі на шыі ды паедзеце дамоў. А пра далейшае лячэнне даведаецеся пазней. Хірург і эндакрынолаг усё патлумачаць…

…Праз сем дзён швы знялі, уручылі выпіску. Развітаўшыся, Надзея паціху патупала да метро. Халады лістапада прадвяшчалі зіму. Дрэвы і кусты, скінуўшы зялёна-жоўтыя ўборы, выглядалі панура і шэра. Закружылася галава — ад свежага паветра і слабасці. Прыпыніўшыся на нейкі момант, уздыхнула на поўныя грудзі, ціха прашаптала: «Госпадзі, беражы мяне, заўсёды дапамагай. Дай магчымасць дабрацца дадому, сіл і здароўя дай. Мяне ж матуля чакае. Адна я ў яе засталася: брацік трагічна загінуў…»

# Запозненае раскаянне

*Апавяданне*

За вокнамі гаспадарыла восеньская ночка. Жоўты маладзік настойліва зазіраў у вокны. Нібыта цікавіўся ў пажылой жанчыны: «Чаму не спіш? Салодкіх сноў…»

Насценны гадзіннік старанна лічыў хвіліны, а цётцы Васілісе не спалася. Варочалася ў прасторным ложку, шукала зручнае месца. Як на тое ліха, сон не ішоў… У галаве віравалі думкі — і прыемныя, і не надта.

Амаль кожную ноч цётка размаўляла сама з сабою. І часам горка плакала. Заўсёды ўпікала сябе за тое, што некалі прыслухоўвалася да кепскіх парад. Недарэмна ж кажуць: у людзей пытай, ды свой розум май. Калі б не паслухала тады злосную суседку, мусіць, усё б склалася ў яе адзінага сыночка інакш. І, магчыма, быў бы цяпер жывы. І шчаслівы. І здаровы.

Васіліса добра памятае той дзень, калі Вальгуша прыпыніла яе каля студні з поўнымі вёдрамі. Не павіталася. Кінула проста ў твар:

— Навошта твой сын заляцаецца да Зінкі? Хаха-ха! Вось дык нявесту сабе знайшоў! Метр з хусткай! Нямашака ў гэтых Дзічкіных нічога. Няхай бярэ Матроніну Насцю. І пасаг добры, і хата ў бацькоў вялікая, прасторная — не тое што ў гэтых Дзічкіных!

Васіліса, прыпыніўшыся, здзіўлена зірнула тады на суседку. І чаго яна сёння шыпіць так ад злосці? Кобра, дый годзе! Што зрабіла ёй Зіначка? Дзіцё ж зусім, толькі дзевятнаццаць днямі споўнілася. Хай і ростам маленькая, але ж якая прыгажунька! Ды і старанная, працавітая. І старых паважае, заўсёды першая вітаецца. Завочна вучыцца ў інстытуце, працуе на заводзе...

Заўважыўшы пільны погляд, Вальгуша яшчэ і прыгразіла:

— Не паслухаешся — крыўдуй на сябе. Скажу свайму Максіму, дык адразу на цябе ўправу знойдзе!

Зніякавеўшы, Васіліса зразумела: гэтыя словы — не пусты гук. Муж суседкі займаў пасаду ў сельвыканкаме. Пра яго казалі: слова прамовіў — сякераю адсек. Нечакана здагадалася, адкуль вецер дзьме. Гэта ж учора Вальгуша пасваралася з Соняй Дзічкінай, матуляй Зіначкі! Вядома ж, і прычына нейкая была… Сварка ж ніколі не ўзнікае на пустым месцы.

Што тут скажаш? Вальгуша занадта ганарлівая. І, відаць, хоча, каб усе, разявіўшы рот, слухалі толькі яе прамовы, часцяком нядобрыя і пустыя. Бачыце, муж у яе не абы-хто, а начальнік! Вось і займела звычку прыніжаць і абражаць. Самае цікавае, ніхто ніколі не пярэчыў гэтай маладзіцы — баяліся помсты. А вось Соня не вытрымала. Смела выказала проста ў вочы ўсё, што думала. І не цішком, а пры ўсіх.

Вальгуша, затаіўшы злосць, вырашыла адпомсціць. Добра ведала, што Соньчына дачка сябруе з Адасём. І даўно, амаль з дзяцінства. Верагодна, чула і пра тое, што пасля службы ў войску хлопец меркаваў адразу ажаніцца.

…Васіліса ў той жа вечар напісала сыну доўгі ліст з просьбай забыць каханую. Давялося схлусіць, нібыта ў Зіначкі ёсць жаніх, з якім плануе хутка ўзяць шлюб. Дума́ла: дзяўчат шмат — і на вёсках, і ў горадзе. Яшчэ сустрэне сваю адзіную…

Паплакала тады Зіначка і цвёрда вырашыла: пісаць Адасю апраўданняў не будзе! Вінаватай сябе не лічыла, бо ні на спатканні, ні на танцы не бегала: чакала яго, спадзявалася, што заўсёды будуць разам… Атрымалася ж усё інакш.

…На другі дзень у завадской сталовай яна прысела за той столік, дзе абедаў Валера — сарамлівы, ціхмяны юнак. Павіталася ды запыталася жартам:

— Ты не забыўся, як мяне ў кіно запрашаў? Я сёння ўвечары вольная ад заняткаў. Можа, сходзім? Сяброўкі казалі, цікавы фільм зараз ідзе. Пра каханне.

Хлопец, як адразу заўважыла Зіначка, ужо і не чакаў такой прапановы, хоць даўно марыў сустракацца з гэтай прыгажуняй. Задаволены, адразу прызначыў час спаткання.

Цяпер яны хадзілі разам і ў кіно, і на розныя выстаўкі. Праз некаторы час юнак прапанаваў пабрацца шлюбам. Дзяўчына адразу згадзілася і пасля ніколі не шкадавала. Валерый быў працавітым, гаспадарлівым, клапатлівым, лагодным мужам. І добрым бацькам. Маладыя паціху пабудавалі новы дом, з'явіліся дзеткі. Пазней набылі і новы аўтамабіль. Дый жылі дружна, весела. І пра гэтае добра ведалі ўсе вясковыя пляткаркі. Бачылі, якой шчаслівай стала Зіначка. Некаторыя нават зайздросцілі.

Чула пра тое і Васіліса. Употай ад усіх горка плакала, пастаянна ўпікаючы сябе за тое, што зламала сыну лёс. Але прызнацца, павінавацца ды распавесці ўсю праўду не рашалася. Разумела і адчувала: сын ніколі не даруе ёй подлую хлусню. Але ж… Як кажуць, блізка локаць, а не ўкусіш!

Шкадавала, што ў Адася сямейнае жыццё склалася не так, як ёй хацелася… З будучай жонкай сын пазнаёміўся ў цягніку, калі вяртаўся пасля службы ў войску. Выпадковая сустрэча нічога добрага не абяцала. Ад нявесткі Васіліса ніколі не чула добрага слова. Затое Кацярына адразу ўпадабала вясёлыя карпаратывы, з якіх вярталася п'янай. Па гаспадарцы не рабіла амаль нічога, дачушак Адась гадаваў і выхоўваў сам: варыў малым кашу, мыў посуд, бялізну… Нечакана даведаўся, што жонка займела палюбоўніка. Ды пра тое ўжо ведалі і пільныя суседкі, якія цішком шкадавалі Адася.

Ад расчаравання і самоты ён пасябраваў з чаркай… Ды і рэгулярныя камандзіроўкі ў чарнобыльскія мясціны нядобра адгукнуліся, радыяцыя падарвала здароўе. Васіліса настойліва раіла сыну знайсці іншую працу. Але дзе там! Не слухаў. Верагодна, у гэтых камандзіроўках ён забываўся пра сваё няўдалае сямейнае жыццё, першае каханне. І аднойчы сэрца Адася не вытрымала, спынілася навечна. А было ж яму ўсяго трыццаць сем…

# Слова на пачатку

## Развагі пра літаратурны дэбют

**У мемуарах ці не кожнага прызнанага пісьменніка можна сустрэць развагі кшталту: што новага можна сказаць пасля Гётэ, Пушкіна, пасля старажытных грэкаў, на плячах якіх сядзяць усе сённяшнія мысляры, словам, пасля ўсіх вялікіх?.. І, тым не менш, знаходзіцца і што сказаць, і каму.**

### ПЕРШЫ — ЗНАЧНЫ?

...А кажуць усё пра тое ж. Каханне, якое часта робіцца першым штуршком да творчасці (Уладзімір Арлоў, прыкладам, сказаў, што кнігі ў мужчын нараджаюцца нібы дзеці ад жанчын). Па-юначы шчырая адданасць Радзіме (ці нейкай высокай справе, што каму да густу). Спробы самаідэнтыфікацыі: што я за чалавек? што я магу?

Адпрэчваць значнасць літаратурнага дэбюту бессэнсоўна. Зрэшты, як і перабольшваць. Між тым фактычны дэбют, сапраўдны, часта застаецца як бы за кадрам. Так, агульнавядома, што першай кнігай Анатоля Сыса стаўся «Агмень». Наклад дэбютнага зборніка ў 1988 годзе разышоўся ўсяго за некалькі тыдняў. На фоне такога ашаламляльнага (як бачыцца з нашага дня) поспеху чытач не стане браць у разлік першую публікацыю будучага культавага паэта ў рэчыцкай раённай газеце «Дняпровец». Дый сам поспех першай кнігі, якая, лічы, «зрабіла» паэта, варта разглядаць з двух бакоў. З аднаго — неаспрэчны талент. З іншага — своечасовасць кнігі: на хвалі беларускага нацыянальнага адраджэння вершы Сыса прыйшліся якраз да душы чытачу. Зваротны лёс напаткаў першую кнігу Максіма Танка: у 1936 годзе яго паэтычны зборнік «На этапах» канфіскавала паліцыя. Пра значнасць дэбютнай кнігі сведчыць і гісторыя «Таемнасці агню» Леаніда Галубовіча: за гэтую кнігу паэта прынялі ў Саюз пісьменнікаў.

Вяртаючыся да першай публікацыі ў друку: часцей за ўсё яны з'яўляліся ў той перыёдыцы, што была пад рукой у пачаткоўца. Гэта, зноў жа, Анатоль Сыс і рэчыцкая раёнка, Анатоль Вярцінскі — і студэнцкая газета «Беларускі ўніверсітэт», Генадзь Бураўкін — і полацкая абласная газета, Сяргей Законнікаў — і «Віцебскі рабочы», Навум Гальпяровіч — і наваполацкая газета «Хімік», Мікола Аўрамчык — і бабруйская газета «Камуніст». Вялікую ролю ў лёсе шматлікіх пачаткоўцаў адыграла творчае аб'яднанне пры газеце «Чырвоная змена». Менавіта тут з'явіліся першыя вершы Рыгора Барадуліна, Яўгеніі Янішчыц, Віктара Шніпа і многіх іншых. Тут праходзілі творчую школу, падтрымлівалі дэбютантаў.

Сёння значнасць дэбюту для асобнага творцы — і культуры краіны ўвогуле — таксама разумеюць (бо так ці іначай сярод сённяшніх пачаткоўцаў ужо цяпер знаходзяцца тыя, хто праз дзесяцігоддзі будуць «імёнамі» нашай літаратуры). Сведчаннем — асобная намінацыя «Дэбют» у межах Нацыянальнай літаратурнай прэміі Беларусі. Штопраўда, з'явілася яна толькі летась, калі й быў перайменаваны ў Нацпрэмію «Залаты Купідон». Першым у яе гісторыі намінантам-дэбютантам стала Алена Мальчэўская з дзіцячай кнігай «Ша-ша з левага чаравіка». Выбар годны, аднак прэмію чамусьці не ўручылі. Тым больш цікава чакаць сёлетняга прысуджэння Нацыянальнай прэміі.

### ПЫТАННІ МОВЫ

Няцяжка заўважыць і такую заканамернасць у гісторыі літаратурных дэбютаў: многія пачынаюць пісаць не па-беларуску, і толькі затым, пад уплывам пэўных знешніх фактараў, пераходзяць «на мову». Найвядомейшы прыклад — «наша ўсё» Янка Купала, які пачынаў пісаць па-польску (публікацыі 1903 — 1904 гадоў у часопісе «*Ziarno*»). Між тым «сапраўдным» дэбютам прынята лічыць беларускамоўны верш «Мужык» 1905 года.

Перасягнём у наш час. Вядомая сёння прапагандыстка беларушчыны, паэтэса Людміла Рублеўская, якая звяртае да мовы многіх юнакоў (як некалі Караткевіч), пачынала з рускамоўных вершаў. Дый той жа Караткевіч адкрыў для сябе значнасць беларускай мовы ва ўкраінскім асяроддку, у кіеўскім універсітэце. Пісьменнік цудоўна разумеў, што многа большую папулярнасць (і матэрыяльныя выгоды) можна атрымаць, пішучы па-руску. Якраз пасля публікацыі «Чазеніі» ў рускамоўным перакладзе ў часопісе «Маладая гвардыя» ён атрымаў усесаюзную прызнанасць.

І сёння многія пачынаюць пісаць па-руску. Прычына ўсё тая ж, што і на пачатку XX стагоддзя, — асяродак. Так пра свае першыя спробы распавяла паэтэса Наста Кудасава: «Я пачала пісаць вершы ў шэсць гадоў. Але мяне нішто, здаецца, не падштурхоўвала, проста гэта было ўлюбёным заняткам, улюбёным станам — пісаць. Хай не вельмі мастацкія рэчы, нічога з тых першых "спроб" не захавалася, і ўсё па-руску. Штуршком да больш свядомага пісьма стала захапленне беларушчынай. Гадоў з чатырнаццаці я пачала пісаць па-беларуску вершы і адразу ж атрымала ўхвальны водгук маёй настаўніцы рускай літаратуры Валянціны Максімаўны Сіманенка. Яна параіла і далей працягваць пісаць па-беларуску, бо ўгледзела штосьці сапраўды маё. Я, акрыленая, адправіла тыя вершы ў "Нашу ніву", і іх надрукавалі. Што за вершы, ужо і не помню. Дый сачыць за публікацыямі перастала, цяпер больш іранічна стаўлюся да рознага кшталту літаратурных "дасягненняў". Пішу, таму што пішацца. Але на той момант, у мае пятнаццаць год, гэта было, канечне ж, сапраўднай падзеяй. Той дэбют надаў веры ў сілы».

Што да першапрычын, падштурхоўваюць да творчасці не толькі рэчы ўзнёслыя. Прыкладам, Антон Рудак адказаў на пытанне пра літаратурны дэбют так: «Мне не падабаліся вершы, якія я чытаў».

### З КРАЙНАСЦІ Ў КРАЙНАСЦЬ

У шэрагу партрэтаў сённяшніх дэбютантаў ёсць дзве скрайнасці, на якія цікава і карысна звярнуць увагу, бо яны даюць уяўленне пра стан літаратуры ўвогуле (прынамсі, па маіх адчуваннях). Так, ёсць маладыя, што ідуць пратораным шляхам, працягваючы матывы спачылых класікаў, не адчуваючы, што гэтыя матывы ўжо не гучаць дастаткова моцна, каб можна было казаць пра адкрыццё, нават больш: яны не заўсёды гучаць шчыра. Гэта ўсё тыя ж пейзажы і накіды з «роднага куточка», пазнавальныя настолькі, што, пачытаўшы першы радок узнёслага верша, з заплюшчанымі вачыма можаш прадказаць наступныя пятнаццаць. Таксама — вершы ў абарону мовы. Прагледзеўшы некалі адзін такі мой тэкст, мудры Пятро Васючэнка задаў пытанне: «Ад каго вы мову абараняеце?» Падобная патрыятычная ваяўнічасць адразу выдае падлеткавасць аўтара, творчую нясталасць. Такім вершам заўжды ёсць апраўданне: аўтар верыць у тое, пра што кажа. Ён рамантык.



Малюнак Алесі Ісы.

На супрацьлеглым краі нашай «дэбютанцкай парадыгмы» — пачатковец з незашораным беларускасцю поглядам. Яго кругагляд ахоплівае многа больш за сярэднестатыстычную бібліятэчку класічнай беларускай літаратуры. Такі творца можа сказаць новае — і не заўжды прыемнае. Ён падаецца крыху цынічным, часта — хуліганам, і гэта вымушаная мера абароны ад банальнасці, ад паўтораў. Не ўсе, на жаль, гэта разумеюць і кідаюць смеламу пачаткоўцу папрокі, кажучы: «гэта не мастацтва!», разумеючы насамрэч на ўвазе: «мы да такога не звыклі!». Гэтыя дэбютанты часта выступаюць у друку з рускамоўнымі творамі. Прыклад на паверхні — Андрэй Лазуткін.

### ТВОРЧЫ ПАЛІГОН

Дзе пабачыць тэксты пачаткоўцаў? Найперш — у перыядычным друку. Часопіс «Маладосць» — хоць бы па назве — скіраваны рэгулярна адкрываць свету новыя імёны. За 2015 год у рубрыцы «Упершыню ў "Маладосці"» прагучала 13 новых імёнаў паэтаў і 14 — празаікаў.

Здавалася б, найбольш складана зрабіць першы крок. Але насамрэч якраз у дэбютанцкую рубрыку патрапіць найпрасцей. Намнога больш складана даецца другі крок — публікацыя ў «сталым» целе часопіса. Тут як з будаўніцтвам кватэры: трэба патрапіць у чаргу, а потым доўга-доўга чакаць. Паэт Рагнед Малахоўскі не так даўно падзяліўся шчасцем з сеціўнымі сябрамі: у «Маладосці» з'явілася яго дзясятая з 2003 года публікацыя. Здаецца, многа. Ці ўсё ж такі мала: дзесяць падборак на паўтары сотні нумароў?..

Гэта не адзінае пытанне і не адзіная праблема. Так, пры тым, што «Маладосць» іграе вялікую ролю ў «агучванні» новых імёнаў, прасоўванне іх застаецца за самімі дэбютантамі. З аднаго боку, яно й правільна: талент, як кажуць, заўжды знойдзе шлях. Але з іншага — пры той колькасці новых імёнаў і плыні тэкстаў не хапае падсумавання, няхай і суб'ектыўнага. Не хапае адзнакі ад самога часопіса, хоць бы і не фінансавай (як прэмія «Залаты апостраф» часопіса «Дзеяслоў», якая мае намінацыю для рубрыкі «Дэбют»). Дастаткова скласці рэйтынг. Адныя пакрыўдзяцца, іншыя натхняцца, але і тое, і другое пойдзе толькі на карысць і часопісу, і самім дэбютантам.

Вялікая канцэнтрацыя маладых аўтараў — у часопісе «Верасень», які, паводле яго стваральнікаў, для таго і існуе, каб падтрымаць маладых літаратараў.

### КНІГУ МАЮ

Між тым часопісная публікацыя — толькі першая прыступка, ці, лепей сказаць, адна з форм дэбюту. Наступны ўзровень у гэтай складанай гульні — кніга. Адны з іх паўстаюць адасобленымі з'явамі, выдаюцца за ўласныя сродкі, часам — у электронным фармаце (прыкладам, кніга вершаў Івоны Шовк «З Эдэму на Зямлю»). Часцей жа дэбютныя кнігі выходзяць у серыях, заснаваных пісьменніцкімі супольнасцямі. Напрыклад, серыя «Мінскія маладыя галасы» выдавецтва «Чатыры чвэрці» і Саюза пісьменнікаў Беларусі. Першыя кнігі — і вельмі актыўна! — выдаюць у серыі «Маладая паэзія Беларусі» («Харвест»). Да слова, зборнік Аксаны Ярашонак-Камінскай «Звычайнае шчасце», выдадзены ў гэтай серыі, сёлета патрапіў у лонг-ліст прэміі «Дэбют» імя Максіма Багдановіча.

Яшчэ адна «прысаюзная» серыя — «Пункт адліку». І патрапіць у яе — значыць давесці пэўны ўзровень літаратурнага майстэрства (калі ўвогуле адэкватна казаць пра нейкія ўзроўні). Дэбютныя кнігі Антона Рудака, Андрэя Лазуткіна, Кірыла Дубоўскага, Насты Манцэвіч, Андрэя Пакроўскага ды іншых прагучалі, не прайшлі незаўважанымі. Імавернасць таго, што аўтары «Пункта адліку» акажуцца так званымі «аднадзёнкамі» (на такую з'яву наракаў яшчэ Максім Багдановіч у 1911 годзе), зведзеная да мінімуму. Так, не ўсе творы дэбютантаў роўныя, у асобных выпадках адчувальнае перайманне (згадаць Таццяну Светашову, якую параўналі з Палазковай і ў адказ атрымалі неабдымную хвалю абурэння), але тут ёсць пра што гаварыць.

Дарэчы, пра абурэнне. Дэбютант — гэта толькі гучыць сціпла і нясмела. Насамрэч, у гэтым асяродку жарсці палаюць не меншыя, чым у канкурэнтным коле сталых аўтараў. Як прыклад — гісторыя сёлетняга ўручэння прэміі «Дэбют» імя Максіма Багдановіча, калі ў намінацыі «Паэзія» пераможца вызначаны не быў. Патлумачылі гэта роўнасцю мастацкіх вартасцей кніг трох фіналістаў, аднак уважліваму чытачу зразумела: пераможцы сёлета папросту не было. У адказ журы атрымала адкрыты ліст з патрабаваннем усё ж прысудзіць некаму з трох галоўную прэмію, а таксама — выклік на паэтычны батл (які так і не адбыўся). Відавочна, не ўсе дэбютанты разумеюць: такога кшталту заахвочванні якраз заахвочванні, вялікі аванс. За рэдкімі выключэннямі.

**Наста ГРЫШЧУК**

**Віталь Рыжкоў:**

— Вершы намі (людзьмі) пішуць прачытаныя намі ж папярэднія паэты. Прымушае рыфмаваць ілюзія, што напісанае табой важна і што гэта нескладана. Ну і, вядома, пісьменніцкая вярэда, якую абуджае ці то эга, ці то прага выказацца, самавыявіцца.

Штосьці напісаць для сябе я вырашыў у першым класе, у сем гадоў. Бо застаўся дома адзін і не было чым заняцца. Бо нядаўна навучыўся пісаць. Бо навіны па ТБ чымсьці ўзрушылі тады ажно так, што захацелася напісаць першакласніку пачатку дзевяностых, маўляў, вайна — гэта кепска ды паказаць маці. Не ацаніла.

Таму, калі ў 13 гадоў я зноў адчуў непераадольную вярэду напісаць пра свае думкі і пачуцці, бацькам нічога не паказваў. І доўга не паказваў яшчэ. Таму ўпершыню маці была на маім выступе, калі выявілася, што выступаю я ўжо 10 гадоў.

А дэбютны выступ адбыўся у 19 на конкурсе для такіх жа пачаткоўцаў, як і я. Хваляваўся? Яшчэ як. Папрасіўся выступіць першым і пасля выступу сышоў. Праз тры-чатыры дні арганізатары мяне неяк усё ж адшукалі і перадалі дыпломы пераможцы. Так усё і пачалося. Я думаў выкласці аўдыязапіс таго самага першага выступу, але паслухаў, і зрабілася сорамна за сябе: адначасова і наіўна, і пафасна, і з нейкімі падвываннямі... Передумаў, карацей.

*У пісьменніцкім асяродку*

# Школьныя гісторыі і... батаніка ў асобах

Выдавецкі дом «Звязда» і Мінскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі распачалі акцыю для юных чытачоў «Расцём з цікавай кнігай» у сталічнай дзіцячай бібліятэцы № 10. Набліжаецца да канца апошняя школьная чвэрць. І цяпер самы час згадаць пра тое, як і чым заняць вольны час дзятвы!

Стартавала акцыя сустрэчай за «круглым сталом», падчас якой пісьменнікі Алег Ждан, Генадзь Аўласенка, Алесь Марціновіч, Яна Явіч, Людміла Круглік, Алена Стэльмах разам з бібліятэкарамі і школьнікамі вялі размову пра ўзаемаадносіны творцы, бібліятэкі і чытача. Як ладзіцца супрацоўніцтва і чым яго варта падмацаваць? Так паўстала нагода для шчырай размовы.

Дзіцячая бібліятэка №10 і надалей, амаль кожны тыдзень, будзе месцам спаткання дзіцячых пісьменнікаў і чытачоў. Мноства такіх сустрэч будзе ўключана ў праграмы школьных летнікаў. Гэтым разам Алег Ждан прадставіў свае кнігі, героі якіх ужо даўно палюбіліся беларускім дзецям. Аповед аўтара пачулі вучні гімназіі № 11 г. Мінска.

Ці ведаеце вы, што такое мацярдушка? А шальбабоны? Калі не паспелі наведаць юбілейную вечарыну ў сталічнай публічнай бібліятэцы № 15 імя Цёткі, прымеркаваную да 10-годдзя паэтычнага тэатра «Арт.С», то зазірніце ў «Батанічны слоўнік» Зоські Верас, укладзены беларускім пісьменнікам Міхасём Скоблам.

Вядучыя вечарыны — Аксана Спрынчан і Яраш Малішэўскі — метафарычна суаднеслі герояў імпрэзы са згаданымі ў кнізе раслінамі: шальбабоны «ўвасабляў» Серж Мінскевіч, цвінтарэй — Віктар Шніп, шалвею — Ірына Клімковіч, дзівасіл — Яраш Малішэўскі. Госці імпрэзы даведаліся, што мацярдушка ў рускім перакладзе — «душица», шальбабоны — гэта звычайная фасоля, мацаўнік — цыкорый.

— За час існавання паэтычнага тэатра «Арт.С» да яго пастановак далучылася шмат таленавітай моладзі, — распавяла загадчыца бібліятэкі Рэгіна Багамолава. — Падрастае ў нас і юная змена. Паэтычны тэатр — гэта з'ява ў культурным, літаратурным жыцці краіны. Цікава, што яго юбілей прыпадае на Год культуры.

Пятро Васючэнка, Мікола Кандратаў, Віка Трэнас, Альжбэта Малішэўская-Спрынчан, Міхась і Вячка Скобла, Станіслава Сыс… Дарослыя і дзеці ператварылі бібліятэку ў сапраўдную сцэнічную пляцоўку. Падчас імпрэзы можна было пабачыць і выстаўку работ фотамастакоў Міколы Лінніка і Васіля Кузьмічкіна.

Другі год пры сталічнай гімназіі № 35 працуе літаратурны клуб «Спадчына», арганізаваны сумесна з Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі. У межах пасяджэнняў клуба аматары беларускага слова сустракаюцца з вядомымі літаратарамі, удзельнічаюць у творчых конкурсах.

Госцем чарговай імпрэзы стаў пісьменнік Аляксандр Вашчанка. Творца пазнаёміў гімназістаў з уласнымі кнігамі, выканаў некалькі сваіх песень на вершы беларускіх паэтаў. Пра гэта рэдакцыі «ЛіМа» распавяла настаўніца беларускай мовы і літаратуры гімназіі Наталля Лойка.

Днямі з нагоды 130-годдзя з дня нараджэння Змітрака Бядулі (Самуіла Плаўніка) па ініцыятыве кіраўніка школьнага музея «Вілейшчына літаратурная» Розы Шэрай на тэрыторыі Ільянскай сярэдняй школы імя А. А. Грымаца адкрылі мемарыяльную дошку.

Як высвятляецца, будучы пісьменнік па жаданні бацькі вучыўся ў мясцовым ешыбоце на яўрэйскага святара (рабіна) з 1899 па 1901 год. Сюды ён перайшоў з даўгінаўскага ешыбота, бо ад Ільі да роднай вёскі Пасадзец, што на Лагойшчыне, дабірацца было зручней.

Мемарыяльную дошку ўрачыста адкрылі госці школы — паэт, галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Віктар Шніп і пісьменніца Людміла Рублеўская. Рэдакцыі «ЛіМа» пра гэта паведаміла педагогарганізатар школы, член СПБ Аксана Ярашонак.

Празаік і публіцыст, старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення СПБ Анатоль Крэйдзіч сустрэўся з землякамі ў роднай школе, што ў вёсцы Заверша Драгічынскага раёна. Яго верш «Вёска мая — Заверша», якім адкрылася імпрэза, пакладзены на музыку.

Падчас сустрэчы слова мелі былы дырэктар школы Марыя Мінзар і настаўніца, ветэран педагагічнай працы Лідзія Каранковіч, у якой вучыўся будучы пісьменнік. Гучалі радкі з твораў Анатоля Крэйдзіча, успаміны аднавяскоўцаў. Пра гэта рэдакцыі паведаміла настаўніца беларускай мовы і літаратуры Завершскай школы Ала Ярмац.

**Дзіна ДОЛЬСКАЯ**

# Боль, што спальвае сэрца

**…Ураджайныя сады здзічэлі, зараслі лесам. Пакінутыя хаты глядзяць выбітымі вокнамі-глазніцамі як помнікі і сведкі той жудаснай і страшнай катастрофы. Літаратурна-пазнавальную гадзіну «Чарнобыль — боль, які спальвае сэрца» правялі для вучняў старэйшых класаў у гімназіі № 2 г. Ваўкавыска.**

Школьнікі пазнаёміліся з кніжнай выстаўкай «Чарнобыль — боль, быль…». Папка з матэрыяламі і артыкуламі з перыядычных выданняў збіралася бібліятэкарамі на працягу 30 гадоў. Можна было ўбачыць і самую вялікую кнігу бібліятэкі — альбом «Чарнобыль» (да 20-й гадавіны аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі). Шэраг твораў беларускіх пісьменнікаў распавядаюць пра горкія падзеі і наступствы. З кнігі Ніны Рыбік «Эвакуацыя» вучні даведаліся, як цяжка было людзям з'язджаць з вёскі. Больш за 100 тысяч назаўжды запомнілі гэтае страшнае слова — «эвакуацыя». Трэба было тэрмінова пакінуць любыя сэрцу мясціны, утульныя кватэры і хаты, дарагія рэчы. І нічога не браць з сабой: усё атручана радыяцыяй. Ехаць у невядомасць… З кнігі Івана Шамякіна «Злая зорка» на прыкладзе лёсу сям'і старшыні райвыканкама аднаго з раёнаў Гомельшчыны дзеці зразумелі, як за некалькі дзён можна пазбавіцца дружнай сям'і: катастрофа — гэта і перакрэсленыя чалавечыя жыцці, пакалечаныя лёсы, страчаныя надзеі. Пра чалавечнасць — апавяданне Андрэя Федарэнкі «Бляха», якое можна прачытаць у зборніку «Прайсці праз зону». Бяда закранула прыроду, наваколле, жывёл. Пра гэта дзеці даведаліся з твора Івана Пташнікава «Львы». Львы — лысыя ад радыяцыі, галодныя сабакі… Увагу скіравалі і на кнігу С. Алексіевіч «Чарнобыльская малітва», на расповед пра пакуты ліквідатараў, якіх лячылі ў госпіталі ў Маскве.

**Тэрэза КАВАЛЬЧУК**

## Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**29 красавіка** — *на творчую сустрэчу з пісьменніцай Наталіяй Касцючэнка ў СШ № 218 (вул. Ясеніна, 13). Пачатак у 10.30.*

**29 красавіка** — *на юбілейны творчы вечар пісьменніка Уладзіміра Кісялёва ў Уздзенскую цэнтральную раённую бібліятэку (г. Узда, вул. Навіцкага, д. 9, 2 паверх). Пачатак а 11-й гадзіне.*

**2 мая** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Міхасём Пазняковым у публічную бібліятэку № 14 (вул. Прытыцкага, 42). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**3 мая** — *на юбілейны творчы вечар пісьменніцы Наталлі Саветнай у Гарадоцкі культурна-асветніцкі цэнтр Віцебскай вобласці. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**4 мая** — *у Школу юнага празаіка пры МГА СПБ (вул. Фрунзэ, 5-310). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**4 мая** — *на прэзентацыю кнігі вершаў паэтэсы Тацяны Купрыянец «Водгукі памяці» ў Дом Масквы (вул. Камуністычная, 86). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**5 мая** — *на свята дзіцячай кнігі ў СШ № 25 (вул. Я. Чачота, 20). Пачатак а 11-й гадзіне.*

**5 мая** — *у Школу юнага паэта пры МГА СПБ (вул. Фрунзэ, 5-309). Пачатак а 15-й гадзіне.*

## Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**8 мая** — *у літаратурную гасцёўню з удзелам полацкіх паэтаў, прысвечаную Дню Перамогі «Гэтых дзён не змоўкне слава», у межах акцыі «Вершы над горадам» на пляцоўку ля помніка «Вызваліцелям Полацка». Пачатак а 12-й гадзіне.*

## Гомельскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**2 мая** — *на тэатралізаваную прэзентацыю літаратурна-мастацкага праекта «Жывая памяць маёй сям'і» ў гімназію № 10 (г. Гомель, вул. Валатоўская, 9) з удзелам сяброў аддзялення. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**4 мая** — *на ўрок мужнасці ў офіс Гомельскага абласнога аддзялення СПБ (вул. Савецкая, 126-401) для навучэнцаў школ г. Гомеля, які правядзе старшыня аддзялення празаік Уладзімір Гаўрыловіч. Пачатак а 13-й гадзіне.*

**4 мая** — *на сустрэчу з паэтам Валерыем Вятошкіным у Галавінскую СШ Гомельскага раёна. Пачатак а 12-й гадзіне.*

**5 мая** — *на вечарыну ў літаратурна-музычным салоне Гомельскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна (пл. Перамогі, 2а), прымеркаваную да Дня Перамогі, з удзелам сяброў аддзялення і маладых аўтараў. Пачатак а 18-й гадзіне.*

**8 мая** — *на літаратурна-музычную кампазіцыю «Нам 41-ы не забыць, нам 45-ы славіць» з удзелам сяброў літаратурнага клуба «Родники» ў бібліятэку-філіял № 6 г. Гомеля (вул. Уладзімірава, 57). Пачатак у 11.00.*

## Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**6 мая** — *на творчую сустрэчу з паэтам Уладзімірам Рулём у Астрынскую сярэднюю школу імя А. Пашкевіч (Цёткі). У імпрэзе бярэ ўдзел кампазітар і выканаўца Аляксандр Якіменка. Сустрэча пройдзе ў гарадскім пасёлку Астрына Шчучынскага раёна (вул. Гродзенская, 58). Пачатак а 14-й гадзіне.*

*Штрыхі*

# На спадчыннай зямлі



**Слаўнае мястэчка Мёры я наведваў не раз. І адмыслова, па карэспандэнцкіх справах, і па шляху на Браслаў… Ад шашы налева, памятаю, вісеў указальнік на рускай мове і вялікі стэнд, па-цяперашняму білборд, з надпісам «Живешь в Миорах — будь строителем!»**

Чаму ў Мёрах трэба быць абавязкова будаўніком, не вельмі разумеў, ды і потым стэнд знік, а вось што да назвы, то мясцовыя да гэтага часу вядуць спрэчкі. Як, зрэшты, і навукоўцы.

Адны лічаць, што гэта ад назвы возера, якое ў самым цэнтры мястэчка, другія сцвярджаюць, што назва горада, а Мёры цяпер горад, паходзіць ад прозвішча Маер, трэція звязваюць найменне з былымі ўладальнікамі паселішча князямі Мірскімі. Існуе таксама прыгожая легенда пра князя Меру і яго жонку Мерыцу.

І ўсё ж большасць даследчыкаў схіляюцца да таго, што назва фіна-ўгорскага паходжання, бо некалі мясціны насяляла фіна-ўгорскае племя Меры. Спалучэнне ж ІЁ прыйшло з польскай мовы, бо да 1939 года заходнебеларускае мястэчка было ў складзе Рэчы Паспалітай.

Пра многае з мёрскай гісторыі я даведаўся ад мясцовага настаўніка Вітаўта Ермалёнка ў школьным музеі, створаным гэтым выдатным краязнаўцам, сапраўдным патрыётам роднага краю. Мёры ўпершыню згадваюцца ў пісьмовых крыніцах XVI стагоддзя. Ёсць апісанне Мёраў у Слоўніку населеных пунктаў Каралеўства Польскага, які складаўся з 1880 па 1902 год. У той час у мястэчку было каля ста жыхароў і яно з'яўлялася цэнтрам каталіцкай парафіі Дзісенскага дэканата. Дарэчы, сённяшні горад па-ранейшаму ўпрыгожвае велічны будынак касцёла, які, па звестках мясцовых краязнаўцаў, быў зафундаваны ў 1693 годзе Міхалам Святаполкам-Мірскім.

І вось у гэтым касцёле з ласкі яго настаяцеля айца Уладаса Пятрайціса мне давялося чытаць вершы. Гэты вельмі цікавы няўрымслівы чалавек, з кім, дзякуй лёсу, я меў шчасце быць знаёмы, ладзіць святочную імшу ў гонар класіка беларускай літаратуры.

Увогуле, пра гэтага цудоўнага чалавека і пастыра можна расказваць шмат. Літовец па паходжанні, ён, бадай, адным з першых стаў ладзіць набажэнствы на беларускай мове.

Як мне расказваў сам айцец Уладас, упершыню ён пачуў беларускую гаворку менавіта на Мёршчыне, куды патрапіў служыць у 1985 годзе. Пачаў чытаць, прасіў парафіян, каб падказвалі, як правільна ўжываць той ці іншы выраз, каб папраўлялі вымаўленне.

Зрэшты, калі я бываў у яго прыгожым мёрскім доме з карцінамі на сценах, з зімовым садам у двары, кветкамі і жывымі паўлінамі, то не бачыў хібаў у яго беларускім вымаўленні.

Разам з пісьменніцай Ірынай Жарнасек айцец Уладас пачаў выдаваць газету «Голас душы», пачаў нават пісаць вершы па-беларуску. На жаль, у 2012 годзе яго не стала.

Што да Вітаўта Антонавіча Ермалёнка, то я ўжо шмат распавядаў пра яго і па радыё, і ў друку. Гэта цяпер ён, дзякуй богу, выдатнік адукацыі, лаўрэат прэміі «За духоўнае адраджэнне», а быў час, калі яго хацелі звольніць са школы за «нацыяналізм», і мне пашчасціла, умяшаўшыся ў тыя варункі, паспрыяць, каб гэта не здзейснілася.

За сорак гадоў педагагічнай дзейнасці гэты руплівец беларушчыны стварыў тры школьныя музеі, сабраў тысячы артэфактаў мінулага, выхаваў сына-гісторыка, з якім пабудаваў дом-музей і пасадзіў побач сад.

З Мёршчынай звязаны і лёс паэта Сяргея Панізніка. Ён нарадзіўся і вырас у Лявонпалі, вёсцы, якая заслугоўвае асобнай гаворкі. Тут захаваліся рэшткі сядзібнага комплексу сярэдзіны XVIII стагоддзя — невялікі палац і некалькі жылых пабудоў.

Яшчэ адна мясцовая славутасць — мемарыяльная калона ў гонар прыняцця Канстытуцыі Рэчы Паспалітай ад 3 мая 1791 года.

Сяргей Панізнік, які стварыў на сваёй радзіме ўласны краязнаўчы музей, напісаў у адным з вершаў:

*Калыскі загулі: гадуюцца патомкі, —*
*на спадчыннай зямлі жывуць не пустадомкі.*

І гэта сапраўды так.

**Навум Гальпяровіч**

# Пра сутнасць светабудовы

**Што такое вера для мастака і як верніку ў мастацтве рэалізавацца так, каб зразумелі? Ці складана быць праваслаўным жывапісцам і як адчуць сябе ў гэтай плыні патрэбным? Адказы на гэтыя пытанні ведае мастак-жывапісец, выкладчык Мінскай дзяржаўнай гімназіі-каледжа мастацтваў, акадэмік Міжнароднай Кірыла-Мяфодзіеўскай акадэміі славянскай асветы, член Беларускага саюза мастакоў Генадзь Сухамлінаў:**



— Адносіны з Богам у мяне фарміраваліся не адзін дзень. Прыйсці да разумення, што вера патрэбна, было не так проста. Але, на шчасце, усведамленне, што праваслаўная вера — вяршыня ўсіх сфер, якія працуюць над фарміраваннем душы чалавека, да мяне прыйшло.

Я нарадзіўся ў спартыўнай сям'і. Шмат увагі надавалася культу цела, фізічнаму здароўю. Мой бацька майстар спорту, ён уклаў у мяне шмат чалавечых якасцей. Мама простая, хлебасольная жанчына. Сям'я цудоўная была, але ўсё ж такі да Бога я прыйшоў праз мастацтва. Выспяванне майго рэлігійнага светапогляду было доўгім.

Ва ўніверсітэце выкладчыца па гісторыі мастацтваў шмат распавядала пра рэлігію: чым праваслаўныя храмы адрозніваюцца ад каталіцкіх, чым адрозніваюцца абразы, што значаць для чалавека. Яна ненадакучліва тлумачыла, што цела — гэта і ёсць цела, на ім рана заўсёды зажыве, а самае галоўнае ў чалавека — душа, гэта першааснова.

Пасля яе расповедаў я шмат думаў пра веру, пра яе ўплыў. З цягам часу стаў звяртаць увагу на тысячы непрыкметных з'яў, стаў разумець: што лёгка даецца, тое і лёгка сыходзіць. Адчуваў, што выпадкова нічога не адбываецца: награшыў калісьці, абавязкова паплацішся. Магу растлумачыць усё на адным канкрэтным прыкладзе. Вось ляжаў побач са мной пэндзлік, я спытаў, чый гэта, а ніхто не ведае. Тады ўзяў сабе. І чамусьці не атрымлівалася ім маляваць: лініі збіваліся, колер атрымліваўся каламутным. І я зразумеў, што, калі ляжыць не твая рэч, лепш не бяры, бо бокам потым вылезе. Такія непрыкметныя абставіны падводзілі да разумення: я знаходжуся пад кантролем, і кантроль гэты Божы.

Сёння магу казаць, што Гасподзь Бог гадуе ўнутры чалавека. Таму кантроль Божы так моцна і адчуваецца вернікамі, бо Бог увесь час з табой. Зыходзячы з гэтай думкі, я задумваюся, ці трэба грашыць, і, як чалавек праваслаўны, пераканаўся, што людзі павінны верыць у глыбіннае, слухаць, чаму вучыць царква, і за ўсе падзеі, добрыя ці дрэнныя, дзякаваць Госпаду.

**— Ваша сям'я спакойна ўспрыняла ваш выбар стаць праваслаўным мастаком?**

— Гэта цікавы працэс. Бывала, з братам маім пойдзем на футбольнае поле, а ён як крыкне: «А Генка мой мастак!», і тады ўсе смяюцца. Вядома, прыходзілася спачатку пачувацца белай варонай, але ў добрым сэнсе. Бацькі і брат ганарыліся маім выбарам, не асуджалі і да прыняцця веры ставіліся з павагай.

**— У чым для вас сэнс і прызначэнне духоўнага мастацтва? Як вы можаце ахарактарызаваць духоўны жывапіс?**

— Чалавек, які піша карціны, заўсёды задумваецца пра сімвалы, пра тое, як адлюстраваць іх правільна. Любы мастак павінен бачыць не толькі форму, а глядзець унутр, адчуваць чалавека і прыроду глыбока. Можна напісаць карціну за дзень, месяц альбо год, але факт заключаецца ў тым, што ты заўсёды павінен звяртацца да свайго ўнутранага голасу, а пасля пэндзлік сам ужо задасць правільны кірунак. Вельмі важна для мяне, асабліва калі я задумваю карціну, звязаную з духоўнай тэматыкай, папрасіць блаславенне ў святара. Тады працуецца лягчэй.

**— Ці цяжка быць вернікам мастаку?**

— Вернікам не толькі мастаку, але і чалавеку сапраўды быць складана. Такі лад жыцця патрабуе велізарнай працы над сабой, над думкамі. Сёння многія людзі не хочуць абцяжарваць сябе складанасцямі, бо лічаць, што свет прызначаны для забаў.

Але ж, калі падумаць, вера заўсёды збліжала народ. У даўнія часы ўся гаворка людзей была насычана асветай. Мы гаварылі «ваша светласць» і «выратуй Бог». У веруючай дзяржаве заўсёды быў і ёсць самы моцны дух. Калі людзі верылі Богу, Русь была самая моцная. Колькі ні прыходзіла розных басурманаў раскрадаць землі, усё лбы разбівалі, таму што душа ў людзей была моцная.

**— Як ваша жонка і дзеці ставяцца да такога ладу жыцця?**

— У мяне вельмі добрая сям'я, і ў гэтым плане падтрымліваюць. Жонка Алена — апора. Яна вельмі любіць, калі я працую дома, і ганарыцца, што я вернік. Як толькі пачынаю пісаць карціну, захоплена кажа: «Ну нарэшце ты ўзяўся за пэндзаль». Хоць сама жонка не такая, як я, уцаркоўленая, але мой выбар прымае. Дзеці раней хадзілі ў царкву, цяпер перасталі. Але я жыву па прынцыпе, што за свае ўчынкі і выбар у жыцці кожны адкажа сам. За вушы нікога з іх не цягну, даю магчымасць самім усвядоміць, наколькі ім патрэбна вера. Але сам аддаю перавагу жыць разам з Богам ва ўсіх адносінах. Я адчуваю сябе абароненым, і калі ў маім жыцці адбываецца нешта нядобрае, ведаю: Бог мне дае наказ.

**— Як ставяцца да вас іншыя мастакі, калі вы заяўляеце пра сябе як праваслаўнага жывапісца?**

— Ставяцца спакойна, але многія дзівяцца таму, наколькі я вернік. Неяк мяне падвозіў беларускі мастак Уладзімір Тоўсцік. Ён спытаў: «Гена, ты на самай справе трымаеш пост?». Я, не задумваючыся, адказаў, што не магу быць несумленным перад сабой: думаць адно, а рабіць другое. Я жыву законамі божымі і не хачу хварэць. Бо калі чалавек ідзе супраць сваёй душы, то рана ці позна пачынае хварэць. Вера — крык душы. Мой знешні вобраз адпавядае ўнутранаму, і ва ўсіх сэнсах я жыву духоўнасцю.

**— Чаму ў мастацтве вы выбралі рэалізм?**

— Шмат хто сёння адмаўляецца ад рэалізму, і гэта нядобра, я, наадварот, захапляюся ім. Калі прыходжу на выстаўку і бачу замест карціны размазаную пляму, а мне кажуць, што гэта геніяльна, не магу такое прызнаць. Я паважаю мастакоў, паважаю іх працу, але казаць, што такое мастацтва геніяльнае, не магу. Я перад сабой у сваім меркаванні сумленны, за гэта сябе і паважаю. Мой прынцып у мастацтве — усё рабіць для душы. А намаляваць на белым фоне звычайную пляму — гэта для мяне хітрасць. Не люблю падманваць гледача, таму імкнуся ў карцінах адлюстраваць усё светла і зразумела. Тым больш Гасподзь стварыў цэлы свет і даў нам у рукі цуды, але мы, на жаль, да канца не можам ацаніць усёй гэтай прыгажосці. Але калі ёсць магчымасць хаця б дакрануцца да цудаў, то трэба ёй скарыстацца абавязкова. Мы не думаем пра сэнс таго, як каля нас пралятаюць матылі, не бачым, як расце травінка ці як з маленькага жалуда вырастае дуб. Навукоўцы вылучаюць гіпотэзы, што ўсе гэтыя працэсы падуладныя чалавеку, а я лічу, што гэта загадкі і цуды, якія дадзены нам звыш. Здзіўляюся працэсам, якія адбываюцца ўнутры мяне і ў навакольным асяроддзі, — гэта цэлы свет, які можна перадаць у работах. Маё мастацтва будуецца на тым, што я ў прастаце бачу боскую мудрасць.



**— Ці ёсць у вас асаблівыя працы, якія бліжэй за ўсе?**

— Мае працы — мае дзеці. Аднак карціны «Дарога», «Падзяка», «Пакроў Прасвятой Багародзіцы» — адны з самых важных для мяне. Гэта працы, у якія я ўклаў сябе ўсяго, цеплыню і любоў. Напрыклад, на карціне «Дарога» намаляваны мой бацька, які стаіць з кнігай, з ім побач мама з хлебам у руках, а наперадзе дарога, па якой я з эцюднікам іду наперад да Святой Тройцы.

Часам у рабоце над карцінамі не заўважаеш, як з'яўляецца свой твар, манера і стыль. Але разам з гэтымі кампанентамі можа з'явіцца і сваё я, якое звычайна прыводзіць да гардыні. У творчасці я спрабую такога якання не дапускаць. Лічу, што за ўсё трэба дзякаваць не сабе, а Богу. З гэтай нагоды і напісаў карціну «Падзяка». Пра сябе трэба думаць і казаць менш за ўсё, пра сябе часам можна крыху і забыць. Я заўсёды дзякую Богу за магчымасць нараджэння, за магчымасць прачнуцца з раніцы і ўбачыць прыгажосць свету, радавацца ўсяму, што адбываецца вакол. Некаторыя мастакі кажуць: «Я пішу жыццё як ёсць». А я сам сабе думаю: навошта гэта людзям? У жыцці і так хапае гора, негатыву. У адзін час я зрабіў выснову, што мастацтва павінна быць светлае. Па такім прынцыпе жыву і дагэтуль.

**— Калі пачынаеце пісаць работу, бачыце яе першапачаткова да канца або сюжэт з'яўляецца нечакана?**

— Усе мае працы — фундамент не аднаго года. У кожнай карціне мяне вядзе Бог. Я ніколі не малюю алоўкам, адразу бяру палатно, пэндзлік і пачынаю развіваць сюжэт. Бог у творчасці вядзе мяне да апошняй рыскі, таму я ніколі папярэдне не ведаю, як праца будзе выглядаць у канчатковым варыянце. Назву карціны пішу, калі праца скончаная.

Але бывае і так, што над некаторымі творамі працуецца складана. Былі выпадкі, калі не атрымлівалася. Адкладваў, потым даставаў праз дваццаць гадоў і не проста дапісваў, а перапісваў нанова. Напрыклад, карціна «Дзяцінства»: калі напісаў упершыню, мне падабалася там толькі левая частка. Я дастаў праз дзесяць гадоў і зразумеў, што яна сапраўды занадта простая. Мне ж хацелася атрымаць гісторыю. У выніку працу перарабіў, і цяпер гэта не проста карціна, а жыццесцвярджальны аповед пра сутнасць светабудовы.

**— Вучні ўспрымаюць ваш светапогляд?**

— Сёлета маёй выкладчыцкай дзейнасці спаўняецца сорак гадоў. Вучні спакойна і станоўча ставяцца да маіх перакананняў. Але ў адукацыі не імкнуся ім нічога навязваць, вельмі асцярожна стаўлюся да гэтага. Калі нешта і кажу, то раблю гэта ненадакучліва, не прымушаю згаджацца. Магу проста павіншаваць вучняў са святам альбо спытаць, якія праваслаўныя святы чакаюць наперадзе.

**— Вашы творы знаходзяцца ў музеях і прыватных калекцыях многіх краін свету. Вы арганізоўваеце выстаўкі за мяжой. Як там ставяцца да праваслаўнага жывапісу?**

— Гэта праблемнае пытанне. Я баюся вазіць творы ў замежныя краіны. Там мае выстаўкі сапраўды могуць стаць спецыфічнымі. Бо я разлічваю на свайго праваслаўнага гледача. А ў той жа Еўропе сітуацыя зараз нестабільная: яны практычна адмовіліся ад веры, ды і пытанні з бежанцамі сур'ёзныя. Ёсць людзі, якім такі жывапіс непрыемны. Таму пакуль я нават не думаю пра выстаўкі за мяжой.

**— Ці можаце назваць свой жывапіс канцэптуальным?**

— Я не люблю слова «канцэптуальнасць». Яно нейкае вычварнае. Хутчэй за ўсё, слова «канцэптуальнасць» можна аднесці да авангарднага мастацтва і яшчэ тысячы наступных плыняў. Часцей за ўсё маю творчасць называюць рамантычным рэалізмам. Я ж не думаю пра якія канцэпцыі, а проста пазіцыяную сябе як праваслаўны мастак і пішу тое, што мне блізка.

**Вікторыя АСКЕРА**

# «Баль» за кошт прадзюсараў

## Зоркі нямога кіно — у беларускім Музычным тэатры

**30-я гады мінулага стагоддзя. Кіно як від мастацтва ўжо мае прыхільнікаў і ператвараецца ў бізнес, калі поспех загадзя пралічваецца прадзюсарам. Газеты пішуць пра зорак, гледачы млеюць ад іх, дазваляюць сабе марыць пра немагчымае: паглядзець ці дакрануцца. Час, калі ўсё магчыма: творчасць адкрывае шлях да свабоды, якая выяўляецца нават у рытмах, здаецца, зусім няправільных, рваных, але яны чаруюць: джаз выяўляе нестрываную пачуццёвасць. Але гучыць шмат рознай музыкі…**



Кампазітар Пал Абрахам якраз у тыя часы стварыў аперэту «Баль у Савое», у якой таксама шмат розных мелодый і рытмаў — згодна з адчуваннямі часу. На пачатку 30-х гадоў мінулага стагоддзя Абрахам — паспяховы творца, які жыве ў Берліне, але вядомы ва ўсёй Еўропе. Запатрабаваны: яго запрашаюць супрацоўнічаць з кінематографам, ён сцвярджае сябе як аўтар музыкі да першых фільмаў, калі нямое кіно пераходзіла да гуку. Таму ёсць рацыя ў тым, што ў пастаноўцы адной з самых паспяховых аперэт Абрахама «Баль у Савое», якая з'явілася ў афішы Музычнага тэатра Беларусі, абыгрываецца менавіта гэты часавы прамежак. Праўда, аўтары аперэты не пазналі б свой твор цяпер.

Не пазналі б ад пачатку калізіі, завязкі дзеяння. Хіба што імёны галоўных герояў захаваныя: Мадлен і Арысцід, закаханая пара (але паводле першакрыніцы, нядаўна ажаніліся), праходзяць праз выпрабаванне пачуццяў на давер. Выпрабавальніца — былая каханка Арысціда, каралева танга. У арыгінале ўсё заблытвалася з-за магчымай здрады мужа (але каго ў наш час здзівіць настолькі аперэтачным сюжэтам?). Таму ў нас не так, і змененыя прозвішчы: Мадлен Цібо (давялося слухаць у гэтай ролі Наталлю Дзяменцьеву) знаёміцца з Арысцідам Дзюбуа (спяваў Сяргей Суцько) у шыкоўным гатэлі «Савой» недзе на ўзбярэжжы. Вядома, там шмат пастаяльцаў. Але колькасць герояў у спектаклі значна павялічылася з ласкі новых суаўтараў Абрахама (у гэтай аперэты наогул некалькі варыянтаў лібрэта). Пастаноўшчыкі спектакля, абыгрываючы тэму кіно, ствараюць перад гледачом карціну кінафестывалю, які праходзіць на фешэнебельным курорце. У гатэлі збіраецца запрошаная зорная публіка: напярэдадні раздача прызоў і банкет з канцэртам. Калі з за што адзначаць — вось галоўная інтрыга кінафестывалю (як заўсёды), вось з-за чаго мітусня прадзюсараў і маладых артыстаў, што мараць стаць зоркамі. І ўсё пра ўсіх тут ведае адзін чалавек — Памероль, адміністратар Гранд Гатэля «Савой» (артыст Дзяніс Нямцоў). З-за яго камзола і ўзнікае непаразуменне паміж прыгажуняй артысткай Мадлен і кінарэжысёрам, сцэнарыстам і пісьменнікам Арысцідам Дзюбуа.

Паводле законаў жанру, усё павінна высветліцца. Толькі заблытанасць усіх з усімі такая, што кароткая аперэта ператварылася ў даволі працяглы спектакль, дзе ёсць яшчэ стасункі амерыканскага таты-мільянера і таленавітай дачкі Дэзі (Наталля Глух), якая хоча мець уласную кар'еру як джазавы кампазітар. Ёсць стасункі Дэзі з патэнцыйным прадзюсарам. Хто прадзюсіруе маладых таленавітых зорак? Багаты бізнесмен з Усходу Мустафа-бей, якому дазволена мець некалькі жонак. Але пасля разарэння яму, відаць, адной Дэзі хопіць (іншыя жонкі Мустафы застаюцца «за кадрам»). Затое менавіта Мустафа (Сяргей Спруць) перадае настрой чаканага свята кіно, асабліва калі спявае вядомую песеньку дэндзі з фільма *«Puttin' on the Ritz»*. Але яна якраз і гучала ў 1930-х гадах, стаўшы своеасаблівым неафіцыйным гімнам Галівуда. Яна ўстаўлена ў тэму, хоць і іншы аўтар (Ірвінг Берлінг), Мустафа спявае яе па-англійску. Усе іншыя музычныя нумары са сцэны гучаць у перакладзе на рускую. А гэта шмат прыгожых і пазнавальных мелодый у розных стылях



(чым аперэта «Баль у Савое» вылучаецца). Як і належыць прэстыжнаму кінафестывалю, тут ёсць і ганаровыя госці: калі б народная артыстка Беларусі Наталля Гайда выйшла на сцэну не як спявачка Вуазье, а пад сваім імем, поспех быў бы той жа (у беларускай публікі — дакладна).

Кінафестываль для таго і разыгрываецца перад намі, каб немагчымае было магчыма. Ролю чалавека, які можа рэальна нашкодзіць Дэзі Дарлінгтан стаць зоркай вечара, іграе дырыжор-пастаноўшчык спектакля Мікалай Макарэвіч (пакінуўшы аркестровую яму, ён выходзіць на сцэну і нават уступае ў перамовы). Немагчымае (здавалася б) і ў тым, што гучаць імёны са свету кіно, на якія можа купіцца глядач (рэжысёр спектакля Ала Маторная ведае свайго гледача і думае пра яго). Дзе кіно і шыкоўны кінафестываль, там павінны ведаць Феліні, няважна, калі ён жыў насамрэч, таму што тут усё — гульня. Заклапочаны наблізіцца да жыцця чалавек падумае, што ў часы Феліні гучала іншая музыка.

Ды і 30-я гады мінулага стагоддзя адзначаныя выдатнымі імёнамі ў кіно. У Германіі, дзе жыў тады Пал Абрахам, пачыналі ствараць свае шэдэўры класікі экспрэсіянізму Мурнаў і Ланг. Але для лёгкай і лірычнай аперэты было б занадта паглыбляцца ў гісторыю кіно. Тым больш, што ў гэтым і не было задачы: кіно патрэбна як вобраз прыгожага прыцягальнага свету, дзе дастаткова сваіх драм, узлётаў, падзенняў і нават разарэнняў.

З улікам таго, што «Баль у Савое» ніколі не ішоў у беларускім тэатры (хіба што можна было паглядзець фільм паводле гэтай аперэты), для знаёмства прадстаўлены не самы прымітыўны варыянт, нават ёсць спроба стварыць пэўны кантэкст. Лібрэта для пастаноўкі набылі ў тэатра «Маскоўская аперэта». Такім чынам у беларускага гледача Музычнага тэатра ёсць магчымасць пазнаёміцца з яркай святочнай пастаноўкай, правы на якую наш тэатр атрымаў на найбліжэйшыя пяць гадоў. Шыкоўныя сукенкі, яркія строі, гламур з блёсткамі і пёрамі (вось дык аперэта!..) і прыгожыя музычныя нумары. Гледачы могуць быць рознымі: ад аматараў нямога кіно і Феліні да прыхільнікаў Дзі Капрыа. І, вядома, аматары такога жанру, як аперэта, звернуць увагу на новую пастаноўку. Калісьці Пала Абрахама лічылі прадаўжальнікам справы Кальмана і Легара ў даваеннай Еўропе. Таму ўсё яшчэ такое апытымістычнае, натхняльнае: людзі, каханне, музыка.

**Ларыса ЦІМОШЫК**

*ВыДАТна*

# Дарункі красавіка

## Акцёрскія бенефісы: персанальнае свята і крок да гледача

**«Круглая дата» для артыста — гэта нагода сустрэцца з гледачом у адмысловай вечарыне.**

Напрыклад, адзін з юбіляраў красавіка Аляксандр Вергуноў у Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя Горкага зладзіў акцёрскі «капуснік», падчас якога дзяліўся сваёй невычэрпнай энергіяй і жартамі (праца ў тэатры «Хрыстафор» больш за дзесяцігоддзе была невыпадковай для яго). Але па-акцёрску ўмее шмат: школа тэатра лялек за плячыма, ды ў спектаклях тэатра імя Горкага ён заняты ў самых розных ролях: як камедыйных, так і драматычных.

Артыстку Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Янкі Купалы Валянціну Гарцуеву гледачы пазнаюць, нягледзячы на юны ўзрост. Яе першая адметная дата ў тэатры, у трупу якога яна залічана ў 2007 годзе, была адзначана таксама на пачатку красавіка выхадам на сцэну ў ролі Ніны Зарэчнай у спектаклі «Чайка» паводле Чэхава (у пастаноўцы Мікалая Пінігіна). Пра бенефіс з такой роляй можна марыць. Праўда, роляў у рэпертуары тэатра ў Валянціны Гарцуевай ужо больш за дзясятак.

Артыстку Валерыю Арланаву гледачы пазнаюць па працах у кіно. Але самыя адданыя яе прыхільнікі ведаюць, што яна — вядучы майстар сцэны Тэатра-студыі кінаакцёра Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм», дзе працуе з 1996 года. 24 красавіка, у свой юбілейны вечар, Валерыя Арланава на сцэне роднага тэатра прымала віншаванні з юбілеем. Сярод усіх спектакляў са сваім удзелам для бенефісу яна абрала ролю вытанчанай Невядомай у спектаклі «Безымянная зорка». Але імя самой зоркі на слыху.

*Фэсты*

# Выхад у «Паралельны сусвет»

На VI Міжнародным фестывалі-семінары маладзёжных тэатраў «Паралельныя сусветы» лепшым прызналі спектакль «Крылы» паводле паэмы Роберта Раждзественскага тэатра «Балагуры» з Санкт-Пецярбурга. У беларускі горад Баранавічы сёлета на фестываль прыехалі 18 тэатраў з розных краін Еўропы.

У сваіх пастаноўках яны распавялі пра тое, што хвалюе моладзь незалежна ад таго, у якой краіне ты жывеш, чаго маладыя артысты чакаюць ад тэатра, чым могуць здзівіць. А гледачы здзіўляцца гатовыя: фестывальныя паказы прайшлі пры поўных залах. І не толькі паказы, але і тэатральныя гульні, нават бітвы і капуснік. Мясцовая публіка вызначылася ў прыхільнасцях: спектакль «Агонія Троі» (Тэатральнай акадэміі г. Кёльна) атрымаў прыз глядацкіх сімпатый. Цікава, што будзе далей: на наступны год фестываль прапануе сапраўдны выхад у тэатральны космас, запрасіўшы эксперыментальныя тэатры. Правільна, што гледача папярэдзілі загадзя — няхай рыхтуецца разумець, што значыць «Паралельны сусвет» у тэатры.

# Цёплая атмасфера для кветак жыцця

Дыялог разлічаны на дзяцей і тых, хто заахвочвае малых да творчасці. З 27 красавіка па 7 мая ў Мінску праходзіць VI Міжнародны культурны фестываль «Кветкі Расіі». Першымі кветкамі сталі юныя музыканты, якія выступілі ў гала-канцэрце з нагоды адкрыцця: са 100 таленавітых дзяцей адабралі ўсяго 8 для ўдзелу ў фестывалі ў Беларусі.

Але ці не найбольш чакалі сустрэчы з Екацярынбургскім тэатрам юнага гледача і яго спектаклем «Каштанка», які быў адзначаны нацыянальнай расійскай прэміяй «Залатая маска». Тэатральныя майстар-класы, выстаўкі навучэнцаў мастацкіх школ Расіі, інтэрактыўная выстаўка лялек-марыянетак з Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага тэатра марыянетак, ды яшчэ з калекцыяй аўтарскіх тэатральных лялек (яны перажылі блакаду Ленінграда). Пра выхаванне праз культуру варта размаўляць прадстаўнікам розных краін — дзеля гэтага ладзіцца «круглы стол». Фестываль «Кветкі Расіі» арганізаваны Міністэрствам культуры Расіі, але Мінскам не абмяжуецца — яго чакаюць, у прыватнасці, у Грэцыі.

## *Не праміне!*

# Экран як індыкатар пачуццёвасці

## ў серыі «Лістапад. Калекцыі»

Добрае кіно ніколі не канчаецца, калі ёсць тыя, хто хоча яго глядзець. Мінскі міжнародны кінафестываль нават у час зацішша працягвае радаваць аматараў кіно паказамі стужак у рамках серыі «Лістапад. Калекцыі», што прадстаўляецца ў кінатэатры «Перамога». На найбліжэйшы месяц ёсць выбар.

Фільм Томаса Вінтэрберга «Камуна» быў прадстаўлены публіцы на апошнім Берлінскім кінафестывалі. Томас Вінтэрберг адзначаўся журы на Канскім кінафестывалі і намінаваўся на прэмію «Оскар». Айчынны глядач ведае гэтага рэжысёра па стужцы «Паляванне», якая была паказана на «Лістападзе» ў 2013 годзе.

«Камуна» — фільм іншы. Ён аўтабіяграфічны (сам жа рэжысёр стаў аўтарам п'есы). Дзеянне адбываецца ў 70-я гады мінулага стагоддзя. Сям'я з трох чалавек (тата, мама і дачка) дзеля таго, каб зрабіць жыццё больш разнастайным, стварае ў сваім доме камуну блізкіх па духу людзей, якія хочуць пазбегнуць будзённасці і руціны. Яны існуюць паводле ўласных правілаў. Усё мяняецца, калі муж аддае перавагу адной з больш маладых удзельніц супольнасці. Трынэ Дзюрхольм за выкананне галоўнай ролі была прызнаная лепшай актрысай Берлінскага кінафестывалю. Ёсць магчымасць ацаніць яе працу падчас паказаў фільма ў «Перамозе» з 25 красавіка па 16 мая.

З фільмам «Сябры» Луі Гарэля можна пазнаёміцца з 2 па 25 мая. Фільм быў намінаваны на «Залатую камеру», якая прысуджаецца за рэжысёрскі дэбют, з секцыі «Тыдзень крытыкі» Канскага кінафестывалю. Луі Гарэль вядомы акцёр (у прыватнасці, здымаўся ў Бернарда Берталучы). Калі захацеў зняць фільм як рэжысёр, то знайшоў падтрымку ў сваіх калег са свету тэатра і кіно. Напрыклад, рэжысёр Крыстоф Анарэ стаў суаўтарам сцэнарыя і выканаў галоўную ролю ў фільме «Сябры».

Аўтары стужкі з гумарам падышлі да адлюстравання тэмы трохкутніка ў каханні, толькі крыху драматызавалі яе праз актуаліі сучаснай Еўропы, дзе сыходзяцца шляхі прадстаўнікоў розных народаў. У галоўнай гераіні Моны ёсць таямніца: пасля працоўнага дня на вакзале, дзе гандлюе кавай, яна павінна вярнуцца ў месца свайго зняволення. Але гэтага не ведае закаханы Клеман, які хоча дабіцца спагады і звяртаецца па дапамогу да сябра. Французы вельмі тонка адчуваюць пытанні, звязаныя са сферай пачуццяў, умеюць адлюстроўваць іх у кіно, у чым нам прапануюць пераканацца праз фільм Луі Гарэля.

**Марыя АСІПЕНКА**

# Слядамі сталкераў, ці Незабыты боль



*Кадр з фільма «Дзверы».*

Аварыя, якая адбылася на Чарнобыльскай АЭС трыццаць гадоў таму, — трагедыя, да гэтага часу агорнутая таямніцамі, болем, перажываннямі. Шмат яшчэ засталося нявыказанага. Зразумела, як і любая падзея, што ўскалыхнула народ, яна адбілася ў творах мастацтва. У тым ліку — беларускай кінематаграфіі.

Кінатэатр «Перамога» з 25 па 27 красавіка стаў пляцоўкай для паказу складаных, як кажуць, для ўдумлівага прачытання, фільмаў — дакументальных стужак, што апавядаюць пра катастрофу на атамнай электрастанцыі каля мястэчка Прыпяць без аніякіх прыўкрас. У праграму ўвайшлі тры фільмы. Першы, **«Чарнобыль. Экзамен для нацыі»** (2011) Яўгена Сяцько, расказвае пра сувязь сучаснасці з трагічным мінулым, пра захады з боку дзяржавы па нялёгкім пераадоленні наступстваў катастрофы, у тым ліку сістэму радыяцыйнага кантролю і маніторынгу, адсяленне людзей з забруджаных зон, развіццё медыцыны і навуковай школы. Другі фільм — **«Чарнобыльскія джунглі»** (2004) Ігара Бышнёва — прадстаўлены як навукова-папулярная стужка пра свет дзікай прыроды, якая існуе без умяшання людзей, сама па сабе. **«Забраны край»** (2011) — трэцяя стужка ад Юрыя Цімафеева. Гэта больш лакальны, прыцэльны аповед пра канкрэтнае месца — вёску Тульгавічы на тэрыторыі Палескага дзяржаўнага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, дзе знаходзіцца адзін жыхар, пакінуты на волю лёсу... Гэта сапраўдная экзістэнцыя, роздум, філасофія.

Тыя, хто прапусціў дакументальныя прагляды, маюць магчымасць звярнуцца да гэтай тэмы ў ігравым кіно. Успомніць хаця б фільм **«Рэйнджар з атамнай зоны»** (1999) Вячаслава Нікіфарава. У цэнтры сюжэта — капітан запасу па мянушцы Барсук (Аляксей Краўчанка), які шмат гадоў адслужыў на атамнай падводнай лодцы. Пасля вяртання на радзіму, у Беларусь, ён едзе ў зону радыеактыўнага адчужэння. Але спакою там няма. На тэрыторыі нелегальныя гандляры займаюцца тэхнікай, якую пакінулі былыя жыхары, лесам, «багатым» на радыёнукліды, і наркотыкамі. Правіл не існуе ў зоне, агароджанай калючым дротам. Гэта няроўная сутычка, і невядома, хто выйдзе пераможцам... Чарнобыльскімі мутантамі, пра якіх кажуць хіба што рамантыкі, выступаюць людзі — жывыя, звычайныя, але з бруднай душой. Чалавечнасць супраць эгаізму. За кошт перастрэлак, боек фільм адносяць да баевікоў. Але ён нашмат глыбейшы за стандартныя «пагоні і разборкі», прымушае шчыра суперажываць героям.

Беларускі рэжысёр Сяргей Сычоў стварыў у 2005 годзе стужку **«Я памятаю»**, дзе сыгралі даволі вядомыя акцёры Анатоль Кот, Юлія Кадушкевіч, Анжэла Караблёва, Вольга Фадзеева і інш. Фільм пра наступствы Чарнобыля, бо падзеі разгортваюцца праз 20 гадоў пасля катастрофы, пра людзей, якія працягваюць жыць, пераступіўшы не адну рысу роспачы. Мастак Анатоль Буслоў, на якім трагедыя пакінула моцны след, жыве ў Мінску і піша карціны. Быццам бы ўсё звычайна, паўсядзённа... Але памяць не памірае. Тое, што давялося перажыць, не дае душы спакою. Пустата раздзірае знутры. І вось ён выпраўляецца ў небяспечнае падарожжа... Што там, на радзіме? Жыццё працягваецца. Гэта дае надзею. І веру ў тое, што людзі не забываюць пра галоўныя каштоўнасці — любоў і дабрыню.

Яшчэ адна стужка, якую хочацца адзначыць, — кароткаметражка **«Дзверы»**, зробленая ў Ірландыі рэжысёрам Хуаніта Уілсан, але з беларускім акцэнтам. Яна была нават намінаваная на прэмію «Оскар». Сцэнар зроблены па кнізе Святланы Алексіевіч «Маналогі пра жыццё, напісаныя на дзвярах. Успаміны Мікалая Фаміча Калугіна». Гаворка ідзе пра адну сям'ю, якая апынулася ў ліку тых жыхароў Чарнобыля, якія даведаліся пра катастрофу толькі на трэці дзень, калі іх папрасілі тэрмінова пакінуць свае дамы, усё нажытае, узяўшы толькі грошы і пашпарты. Цяпер нам вельмі складана такое ўявіць. Мілы сэрцу горад у адно імгненне становіцца смяротна небяспечнай закрытай зонай… Праўда, герою артыста Ігара Сігава, Мікалаю, яшчэ прыйдзецца вярнуцца ў мясціны, дзе ён быў шчаслівы. Па дзверы, каб пахаваць дачушку. Фільм доўжыцца толькі 15 хвілін, але мы бачым вялікую драму аднаго чалавека, што адзываецца болем у соцень, тысяч людзей...

**Марыя ВОЙЦІК**

## *Майстар-клас*

# Што ў кадры і за кадрам

## Міжнародны фестываль як спосаб вучобы ў кінематографе

Калі ў нас паказваюць замежныя фільмы, што не выходзяць у шырокі пракат, яны заўсёды прыцягваюць увагу кінагурманаў. Сярод апошніх частка тых, хто сам працуе ў кііндустрыі ці толькі марыць здымаць кіно. Глядзець фільм — гэта ў пэўным сэнсе вучыцца ў яго стваральнікаў. Але фестывалі каштоўныя тым, што стваральнікі прыязджаюць самі і гатовыя дзяліцца вопытам.

У рамках фестывалю кіно паўночнаеўрапейскіх краін «Паўночнае ззянне», які прайшоў у Мінску і Віцебску другі раз, адразу планавалася серыя майстар-класаў, якія былі б цікавыя падборам удзельнікаў.

Пра жанчын у нардычным кінематографе ішла гаворка падчас лекцыі ў Інстытуце журналістыкі БДУ фінскай рэжысёркі Мар'і Пиюко. Мар'я — жанчына-рэжысёр у другім пакаленні, магістр мастацтваў, прыязджала прадставіць свой фільм «Вясковыя жыхары», які для айчыннага гледача абсалютна зразумелы (паводле тэмы). У Віцебскім дзяржаўным каледжы культуры і мастацтваў Мар'я правяла інтэрактыўны майстар-клас для будучых акцёраў. Гэта быў вельмі цікавы вопыт, таму што ў Віцебску ніхто не ладзіў падобных сустрэч. Навучэнцы і выкладчыкі маглі паслухаць, як працуюць рэжысёры, акцёры ў еўрапейскіх краінах, — падыходы ў нас вельмі адрозніваюцца.

Адзін з майстар-класаў быў ад Сімона Хольмберга, дырэктара Дацкага інстытута культуры, што ў Рызе. Гэты інстытут — адзін з партнёраў фестывалю. Сімон Хольмберг — менеджар культурных і медыйных праектаў з 22-гадовым стажам, мае вялікі вопыт як лектар. У лекцыі на факультэце экранных мастацтваў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў ён распавёў пра феномен дацкага кінематографа. Гэтая маленькая краіна за непрацяглы час стала адной з вядучых на сусветнай кінапрасторы. Дацкі кінематограф заўжды быў адмысловым, і яму ўдалося стаць вельмі паспяховым у камерцыйным плане. Гэта карысная інфармацыя для нашых будучых рэжысёраў і прадзюсараў.



*Падчас майстар-класа Оле Хрысціяна Мадсана.*

Пра гэта ішла гаворка і на ворк-шопе Оле Хрысціяна Мадсана, вядомага дацкага рэжысёра тэлебачання і кіно, чые фільмы атрымалі каля 115 намінацый і знайшлі дыстрыбуцыю ў больш за 100 краінах свету. Фільм гэтага рэжысёра быў у шорт-лісце намінантаў на «Оскар». На «Паўночным ззянні» ён прадставіў фільм «*ITCI-BITCI*». Яго майстар-клас прыцягнуў увагу яшчэ тым, што гэты рэжысёр лічыцца адным з паслядоўнікаў руху ў кінематографе «Догма-95». Ён распавёў пра маніфест «Догмы», разважаў, ці існуе яна зараз. Аказалася, што ў нас шмат фанатаў «Догмы», асабліва сярод прафесіяналаў. Але для іх быў асаблiва цікавы расповед пра тое, што значыць у кінапрактыцы «інстытут прадзюсарства». Што такое прадзюсар, як працуюць лінейны прадзюсар ці выканаўчы прадзюсар. Як яны паміж сабой дзеляць бюджэт і адказнасць. Як працуе гэтая схема, ад якой наша кінаіндустрыя вельмі далёкая. Але яна адкрывае магчымасць стаць паспяховымі.

Чаму карысна паслухаць тых, хто ўмее рабіць кіно, тлумачыць Вольга Чайкоўская, дырэктар фестывалю «Паўночнае ззянне»:

— Гэта магчымасць атрымаць новыя веды, паглядзець, што адбываецца зараз у кінематографе краін, якія з'яўляюцца больш паспяховымі ў кіно, чым Беларусь. Цікава нават паглядзець, як паводзяць сябе фільммейкеры, якія чытаюць лекцыі. Гэта мастацтва самапрэзентацыі, якім у наш час павінны валодаць маладыя рэжысёры і прадзюсары, якія прэзентуюць свой праект. У нас гучала англійская мова, без якой сёння складана, калі хочаш рухацца ў свет, — цудоўная магчымасць пагрузіцца ў атмасферу паўночнаеўрапейскай кінаіндустрыі.

У прадстаўнікоў нашых культур шмат кропак для паразумення, як паказаў фестываль. У Мінску на ўсе фестывальныя паказы квіткі былі раскупленыя. У Віцебску гледачы пакуль не прывыклі да фестывальнага фармату, калі дэманструюцца два фільмы ўвечары і трэба выбіраць. Але выказвалі жаданне пазнаёміцца з усёй праграмай. Таму што іншая культура цікавая. Але нечым мы падобныя па ментальнасці. Знешняя стрыманасць і аганёк унутры — тое, што нас яднае.

**Марыя АСІПЕНКА**

# Рухавік Алоўнікава

**Чаму мы павінны ведаць сваіх кампазітараў? Ці можна за адзін вечар пабываць адразу ў трох стагоддзях? Піяніст-віртуоз, народны артыст Беларусі, уладальнік медаля Францыска Скарыны, прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Ігар Алоўнікаў разважае, наколькі моцным вырасла новае пакаленне піяністаў і якія традыцыі мае беларуская музыка.**



Фота з асабістага архіва І. Алоўнікава.

## КАМПАЗІТАР І ВЫКАНАЎЦА: РОЗНАСЦЬ ЛЁСАЎ

Фартэпіянная школа Беларусі, па словах Ігара Алоўнікава, ступіла далёка наперад яшчэ з тых часоў, як ён вучыўся ў музычнай школе пры Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі пад кіраўніцтвам выбітнага педагога Ірыны Цвятаевай. «Кожны год мы атрымліваем цэлую плеяду маладых піяністаў, якія шыкоўна іграюць, спраўляюцца з самымі складанымі праграмамі. Я маю на ўвазе не толькі тэхніку, але і раскрыццё мастацкага вобраза. Усё гэта ў нас — на міжнародным узроўні», — кажа піяніст.

З іншага боку, існуе праблема захавання кампазітарскіх традыцый, наогул такой прафесіі. «Працягваюць пісаць старэйшыны, такія як Ігар Смольскі, а маладыя пакуль у пошуках — сябе, стылю, тэм для размовы са слухачом. На мой погляд, нічога значнага, на жаль, у апошні час у фартэпіянным мастацтве не створана. Цікавасць да кампазіцыі ў чыстым выглядзе быццам згасае. Яна актыўна абслугоўвае прыкладныя галіны — тэатр альбо кіно. А вось узяць і напісаць сімфонію, ды яшчэ так, каб пра яе загаварылі... Нават паласа эксперыментаў скончылася. Публіку ўжо нічым не эпатуеш — ні выкіданнем раяля з акна, ні бачкамі ад унітазаў замест музычных інструментаў. На змену пэўным стылям прыйшла эклектыка, «жангліраванне», перайманне і цытаванне», — упэўнены Ігар Алоўнікаў.

## ПРАЎДА Ў КАРАНЯХ

Калі прасачыць за развіццём беларускай музыкі, то можна вылучыць некалькі тэндэнцый. Многія кампазітары як бы на перыферыі. Улічваючы, што Беларусь заўсёды знаходзілася на скрыжаванні еўрапейскіх шляхоў — гандлёвых, эканамічных, культурных. «Некаторых аўтараў, у тым ліку Агінскага ці Манюшку, нельга прылічыць да адной нацыі. Гэта здабытак і палякаў, і беларусаў. Таму ў ВНУ нас і вучылі, што беларуская музыка, маўляў, пачалася толькі пасля рэвалюцыі. З-за такой устаноўкі мы многае страцілі», — распавядае Ігар Алоўнікаў.

Праўда, творчая бруя, якая ўлілася ў беларускую кампазітарскую школу менавіта пасля рэвалюцыі, стала вельмі плённай. Таму што заснавана была на школе Мікалая Рымскага-Корсакава, які вельмі паважаў нацыянальную спецыфіку выканання. Нацыянальныя карані настолькі моцныя, што, так ці інакш, праяўляюць сябе ў мастацтве. Музыка не выключэнне, праўда, калі яна меладычная, а не разбуральная. Беларускіх кампазітараў ХХ стагоддзя часта называлі старамоднымі. Усё таму, што яны арыентаваліся на гармонію і выразную інтанацыю, імкнуліся да фальклорных традыцый.

Ігар Алоўнікаў справядліва сцвярджае, што разумець музыку можна толькі праз асобы кампазітараў. Выконваць твор па нотах, не ведаючы пра яго нічога, неразумна і бессэнсоўна. Ён сам, здаецца, ведае пра творцаў, сусветных і беларускіх, усё. У ліку прыярытэтаў — фартэпіяна Бетховена і Шапэна, музыка аргана ад Баха і сімфанічны талент Чайкоўскага.

## СВЯТОЕ ДЗЕЯННЕ

Бацька піяніста, Уладзімір Алоўнікаў, вядомы на Беларусі кампазітар. Стварыў сімфанічную, камерна-інструментальную і вакальную музыку. Аддаваў перавагу гераічным і патрыятычным тэмам. «Не ведаю, як да бацькі прыходзіла мелодыя, бо ён быў меладыстам ад Бога. Але я бачыў, як ён адпрацоўваў драбнюткія дэталі твора, пераходы, звязаныя са словамі ў песнях. Усё было выбудавана проста ідэальна! Бацька быў не толькі кампазітарам, але і выдатным піяністам, таму і яго акампанемент заўсёды адрозніваўся насычанасцю, разнастайнасцю», — дзеліцца Ігар Алоўнікаў.

У доме стаяла піяніна, узятае напракат у Беларускім саюзе кампазітараў. Насупраць — круглае крэсла, што круцілася і ездзіць, стол з ідэальна навостранымі алоўкамі і паперай. Уладзімір Уладзіміравіч наігрываў нешта і адразу запісваў, перамяшчаючыся на крэсле паміж «лакацыямі». Дом Алоўнікавых напаўняўся чароўнасцю...

«У яго ніколі не было, скажам, нацягнутых месцаў або сумнеўнай гармоніі ў творах. Усё да канца прадумана. Як быццам гэта не песня, масавая, а камерны мастацкі твор. Ён цалкам давяраў толькі інструменту», — распавядае Ігар Алоўнікаў. Некаторыя кампазітары, як, напрыклад, Шастаковіч, пішуць адразу на паперы, не правяраючы. Але тут больш логікі, чым творчай адданасці.

## НАКАНАВАННЕ ЦІ ВЫБАР?

Лёс усё вырашыў за яго. Бацька піша музыку, мама спявае, працуе ў філармоніі. У 9 гадоў ён пачаў ёй акампаніраваць. З дзяцінства увабраў атмасферу канцэртаў. Непатрэбныя былі размовы, куды паступаць. Хоць, вядома, як і любога хлапчука, цягнула да ўсяго тэхнічнага, а сядзець за раялем і развучваць эцюды з гамамі зусім не хацелася.

«Калі ніхто за мной не сачыў, я не займаўся. Выдумляў усякія прычыны, зб'ягаў. Цікавасць да працэсу навучання з'явілася толькі ў старэйшых класах. Мой педагог, Ірына Цвятаева, прывучыла выпрацоўваць інтарэс да працэсу ўдасканалення, шукаць свае прыёмы выканання, іграць так, як сам бачыш, галоўнае — цікава. У кожным такце я стаў знаходзіць фарбы, пераходы. І так захапіўся! Раней мог толькі музіцыраваць, імправізаваць, чытаць з ліста. А з узростам стала зразумела, што без пальцавай тэхнікі нікуды. Асабліва калі хочаш перамагчы на конкурсе. Вось тут да мяне прыйшла яшчэ і радасць матывацыі», — успамінае Ігар Алоўнікаў.

Першы выступ юнака з аркестрам адбыўся ў адзінаццацігадовым узросце, а ў сямнаццаць ён ужо быў лаўрэатам трох фартэпіянных конкурсаў. Працягнуў адукацыю ў Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі па класах фартэпіяна і аргана. Вярнуўся ў Мінск у якасці саліста Беларускай дзяржаўнай філармоніі і педагога ў акадэміі музыкі, дзе выступіў як ініцыятар адкрыцця арганнага класа. Ягоныя вучні таксама заваёўваюць узнагароды, імкнуцца да дасканаласці.

## НЕАДНАЗНАЧНАСЦЬ ПЕРАМОГІ

Дарэчы, да конкурсаў, асабліва міжнародных, у Ігара Алоўнікава дваякае стаўленне. Ён сам бываў у журы. «З аднаго боку, добра, што маладыя музыканты імкнуцца выступіць, каб узбагаціць рэпертуар, атрымаць стымул, пазнаёміцца з новымі творамі, часам вельмі неспадзяванымі. Гэта штуршок, трэніроўка ўмення слухаць іншых, аналізаваць. Але не ўсякая добрая ігра падыходзіць для конкурсу. Важна разумець, што ты павінен спалучаць у сабе цэлую гаму якасцей, прычым, часам процілеглых. Ёсць такая з'ява, як выдатная фартэпіянная ігра, тонкая, цёплая і пачуццёвая. Але гэтага недастаткова для перамогі. На конкурсах дзейнічае спартыўны элемент. Патрэбныя яшчэ і цягавітасць, уменне выконваць вялікія праграмы, бездакорнасць тэхнікі, дакладнасць, фізічная сіла, незвычайнасць. І, нарэшце, жалезныя нервы, каб пераадолець сцэнічнае хваляванне. Гэтыя якасці супрацьлеглыя тым, пра якія я ўжо казаў у спрэчках. Дадзена такое спалучэнне далёка не кожнаму», — дзеліцца вопытам піяніст.

На яго думку, у самой краіне конкурсаў менавіта для маладых піяністаў, якія б падтрымліваліся Міністэрствам культуры, не так шмат. Адзін праходзіць раз у чатыры гады, іншыя фактычна спыняюць існаванне. Такі лёс напаткаў цудоўны конкурс імя прафесара Ірыны Цвятаевай, фестываль-агляд, дзе выступалі выпускнікі і студэнты музычных каледжаў, а самым таленавітым з іх прапаноўвалі паступаць у акадэмію музыкі без іспытаў, як алімпіяднікам. Дзіцячых «спаборніцтваў», праўда, шмат, але яны маленькія, арганізоўваюцца, як правіла, школамі, асобнымі мястэчкамі. За апошні месяц Ігару Алоўнікаву давялося прысутнічаць на трох такога кшталту мерапрыемствах.

## ВЕЧНЫ РУХАВІК

Наогул, піяніст знаходзіць творчасць паўсюль. Яго вынаходніцкі талент праяўляецца ў незвычайным для музыканта хобі — электроніцы. Найбліжэйшая задума — усталяваць у пакоі светадыёднае асвятленне з хітрай канструкцыяй, каб можна было ўключаць падсвятленне розных колераў, пад настрой, размяркоўваць яго раўнамерна і атрымліваць асалоду ад камфорту, які створаны сваімі рукамі. Ён пастаянна нешта майструе, любіць пасядзець з паяльнікам, а ў дзяцінстве апантана збіраў канструктары і электронныя схемы.

Праўда, самі канцэрты «разбаўляць» цудамі тэхнікі не спяшаецца. «Трэба падзяляць высокае мастацтва і шоу-бізнес. Яны не павінны пранікаць адно ў другое. Людзі і так перастаюць слухаць, пагружаныя ў сучасныя хуткасці і стрэсы. Што робяць імпрэсарыя? Думаюць, як іх прыцягнуць. Але сродкі візуалізацыі або ўкрапванне тэатральнага дзеяння ў класічны канцэрт рассейваюць увагу, перашкаджаюць паглыбляцца ў мелодыю, памяншаючы сілу яе цудоўнага ўздзеяння», — упэўнены Ігар Алоўнікаў.

Яго выступы, хоць і ў акадэмічным фармаце, праходзяць практычна нонстопам. Толькі што вярнуўся з Чалябінска, дзе прымаў удзел у арганным фестывалі. Нядаўна прайшоў аўтарскі канцэрт у Белдзяржфілармоніі, дзе творы ў яго апрацоўцы ігралі вучні. На дзіцяча-юнацкім конкурсе імя Шастаковіча таксама быў. А планаў столькі, што ўсе без штодзённіка і не пералічыш. У найбліжэйшы час піяніст хоча аб'ездзіць гарады Беларусі з канцэртамі для дзяцей. Потым возьме ўдзел у новым фестывалі «Стракаты цюльпан» у Брэсце. Упершыню там прагучыць двайны канцэрт Моцарта.

## ГІСТОРЫЯ МУЗЫКІ — ЗА АДЗІН ВЕЧАР

А зусім хутка, 3 мая, Ігара Алоўнікава можна пачуць на вечары фартэпіяннай музыкі ў камернай зале Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра з праграмай, прысвечанай беларускім кампазітарам. Дыяпазон мэтраў, творы якіх будуць выкананы, уражвае, ахопліваючы XVIII — XX стагоддзі. Цэлая гістарычная энцыклапедыя той музыкі, якую мы павінны ведаць у першую чаргу. І ганарыцца ёй.

Канцэрт, па словах піяніста, яшчэ і юбілейны — у гонар 25-годдзя творчага аб'яднання «Беларуская капэла», якое за час сваёй дзейнасці падняло цэлы пласт амаль невядомых беларусам прозвішчаў, музыкі, закінутай на прасторах стагоддзяў: ад фартэпіяннай, вакальнай да опернай і інструментальнай. Кожны раз пошук прыводзіў калектыў спачатку да рэстаўрацыі, потым выдання, выканання і, нарэшце, запісаў мелодый у фондах. Гэта няпростая, карпатлівая праца. Ідэйны натхняльнік «Беларускай капэлы», заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Віктар Скарабагатаў таксама будзе на вечары — у якасці вядучага.

Гэты канцэрт — «кардыяграма» дасягненняў у справе аднаўлення музычнай спадчыны Беларусі. Па словах Ігара Алоўнікава, мерапрыемства стартуе з твораў Міхала Клеафаса Агінскага. Затым прагучыць музыка Станіслава Манюшкі, Напалеона Орды, Міхала і Аляксандра Ельскіх. У другім аддзяленні — ХХ стагоддзе. Вядома ж, Ян Тарасевіч, якога ў свой час адкрыла для нас менавіта «Беларуская капэла», вельмі працавіты і пладавіты кампазітар. Не абыдзецца без творцаў савецкага перыяду ад Анатоля Багатырова, Уладзіміра Алоўнікава і Яўгена Глебава. У гэтым канцэрце прагучаць не толькі арыгіналы, але і транскрыпцыі аркестравых твораў самога Ігара Алоўнікава, які, між іншым, з'яўляецца яшчэ і рэдактарам, укладальнікам зборнікаў беларускай фартэпіяннай музыкі. Праграма яркая, таму што ў ёй як папулярнае, тое, што на слыху, так і рэдкае, можна сказаць, антыкварнае.

Марыя ВОЙЦІК

# «Жыццё без купюр»

## Аснова творчай канцэпцыі мастака Сяргея Грыневіча

Уявіце на хвілінку, што вы патрапілі ў прастору, дзе цемра адначасова пераплятаецца з элементамі прыгажосці і нязграбнасці. Вы спакойна прагульваецеся па пакоі, а з кожнага боку вас прыцягваюць моцныя таямнічыя сілы інтрыгі, захаплення і страху. З такім адчуваннем вы можаце сутыкнуцца, наведаўшы выстаўку «Цёмны пакой» гродзенскага мастака Сяргея Грыневіча ў мастацкай галерэі «*DK*».

Эксцэнтрычная творчасць Сяргея Грыневіча, безумоўна, актуальная. Мастак акцэнтуе ўвагу на зацыкленасці чалавека ў сучасным свеце на сваім візуальным вобразе, яго зменах. Работы аўтара — своеасаблівая рэфлексія на тэмы маральнасці, духоўнасці і на падзеі сённяшняга дня.

Для смелых і дзёрзкіх карцін майстра выставачная пляцоўка «*DK*» прадаставіла дзве залы. У першай зале дэманструюцца партрэты людзей, знешні выгляд якіх перамяжоўваецца ў ступені прыгажосці і наяўнасці неідэальных форм. У другой, цёмна-шэрай, зале экспануюцца вывы, з першага погляду, звычайных крэслаў, якія хаваюць пэўныя сакрэты жыццёвага і мастацкага працэсу аўтара.

Творчая работа над карцінамі Сяргея Грыневіча — гэта спроба прааналізаваць раўназначнасць існавання дабра і зла, высакароднасці і звычайнасці. Напрыклад, у сваіх партрэтах ён не паказвае толькі ідэальныя рысы твару і чалавечага цела. Наадварот, нароўні з ідэальным, можна казаць, трэндавым, стэрэатыпам адлюстроўвае розныя бакі цяласнага скажэння. Мастак прапануе гледачу ўступіць у дыялог з творчасцю, выбраць, што бліжэй: штучная вытанчанасць альбо прыродная схільнасць. Многія героі на палотнах мастака агаленыя. Але гэта не проста мастацкі факт, а прадуманая справа. Мастак агаляе іх не перад сабой, а перад светам. Тонка цёмнымі колерамі падкрэсліваючы ўсе няроўнасці і недахопы цела, ён аналізуе і суадносіць знешняе з унутраным, паказвае ў людзях тое, што звычайна прывыклі хаваць.

Некаторыя карціны Сяргея Грыневіча вельмі нагадваюць творчасць брытанскага мастака Люсьена Фрэйда (1922 — 2011), які таксама героямі сваіх работ выбіраў людзей без адзення і маляваў іх не ідэальных, а з наяўнасцю візуальных недахопаў. Зморшчыны тлушчу, старэчы жывот, абвіслыя грудзі — такімі на многіх карцінах абодва мастакі паказваюць жанчын. Але ж калі Люсьен Фрэйд хацеў данесці, што мастацтва прызнае толькі маральныя аўтарытэты, то Сяргей Грыневіч не ставіцца так бескампрамісна да творчасці. Ён прапануе некалькі варыянтаў мастацкага кірунку: паказвае жыццёвы шлях паспяховым і пазітыўным альбо складаным і расчаравальным. Сваёй творчасцю аўтар спрабуе адлюстроўваць «жыццё без купюр».



*«Поза 2», 2015 г.*



*«Дуэль», 2015 г.*

Рыхтуючы выстаўку для мінскай публікі, майстар улічыў прыход вясны і не абышоў тэму кахання. Бо «Цёмны пакой» — гэта і ёсць тэма таго ўнутранага, няпростага і гарачага пачуцця, што валодае неверагодный сілай: у адно імгненне робіць шчаслівым, у другое забівае. Аўтар лічыць, што каханне трэба пазнаць і адчуць самому, толькі тады і сэнс выстаўкі будзе зразумелы.

Яшчэ адна з галоўных тэм выстаўкі — супрацьстаянне, нявернасць чалавека самому сабе. Карціна «Дуэль», якая складаецца з дзвюх частак, яркі таму прыклад: людзі часам супярэчаць сабе, прынцыпам і жыццёвым устаноўкам, чым наносяць перашкоду блізкім і залежным ад іх людзям.

Выставачны праект «Цёмны пакой» — адзін з нямногіх, які аўтар прывёз у Мінск. Звычайна выстаўкі Сяргея Грыневіча праходзяць у родным Гродне, які мастак, незалежна ад магчымасці ў любы час пераехаць у іншыя краіны, любіць і паважае. Аўтар — патрыёт свайго горада. Яго манументальныя росписы і вітражы можна ўбачыць на розных гродзенскіх вулках, а арыгінальныя карціны — у некаторых дзяржаўных музеях. У Швейцарыі ён мае вялікую студыю, куды два разы на год ездзіць працаваць. Але ж кожны раз ахвотна і з цеплынёй вяртаецца назад.

**Вікторыя АСКЕРА**




Магілёў выклікае цікавасць у турыстаў гістарычнымі будынкамі, якія былі ўзведзены ў XVIII — XIX стагоддзях, музеямі і цэрквамі. Аднак самае папулярнае месца ў горадзе — плошча Зорак. Сваю назву плошча атрымала дзякуючы таму, што імёны вядомых і выбітных асоб горада ўвекавечаны на гэтым месцы ў камені ў форме зорак і скульптуры «Астролаг». Гэты помнік, вышынёй у сем метраў, з'явіўся ў 2004 годзе. Для ажыццяўлення задумы было прынята рашэнне запрасіць Уладзіміра Жбанава, вядомага беларускага скульптара, у якога лепш за ўсё атрымліваецца ўвасабляць чалавечыя вобразы ў камені.

…На высокім крэсле сядзіць задуменны Астролаг. Побач з ім тэлескоп, які ўяўляе сабой стрэлку-паказальнік сонечных гадзін. Кожную ноч у тэлескопе ўключаецца магутны пражэктар. Сілы яго праменя хапае на тое, каб з космасу можна было ўбачыць, дзе размешчаны Магілёў і дзе — плошча Зорак. Вакол Астролага стаяць крэслы: кожнае крэсла адпавядае вызначанаму знаку задыяка.

Сёння з гэтым месцам звязана нямала легенд і прыкмет. Паводле адной з іх, перад тым, як прыступіць да сваёй працы, скульптар пракансультаваўся з дасведчанымі астролагамі. Тыя адкрылі Жбанаву сакрэт: пры правільным размяшчэнні скульптурнай кампазіцыі зоркі могуць выканаць жаданне! Але… Чалавек павінен нешта прасіць, седзячы на крэсле са сваім знакам задыяка, пры гэтым жаданне павінна быць сапраўды запаветным. Згодна з другой прыкметай, дастаткова проста дакрануцца пальцам левай рукі да скульптуры. Лепш — да лба Астролага: у ім збіраецца велізарная колькасць энергіі з космасу, і чалавек зарадзіцца поспехам для ўсіх пачынанняў і спраў!

Дарэчы, плошча, дзе размешчаны помнік, папулярнае месца не толькі для гасцей, але і гарадской моладзі. Часцяком менавіта тут праходзяць розныя святочныя мерапрыемствы і канцэрты.

**Лідзія ГАРОХАВА**

*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* ***lim_new@mail.ru*** *з пазнакай* ***«Культурны ракурс»*** *— лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалагафота, алеі лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*


**ЛіМ**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**





**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51



Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 28.04.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1748.

Кошт у розніцу — 4100 рублёў

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 1375

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12




ISSN 0024-4686